



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

22 ліпеня 2016 года №30 **(1108)**




# Тры гісторыі сямей пра першае жыллё

Маладзечанец Дзмітры Рухлевіч стаў ў чаргу на жыллё ў 2010 годзе. Тады ён быў 9 000-м. За шэсць гадоў стаў 7 252-м. Жыллёвыя гісторыі іншых чытайце ў артыкуле.

старонка 21

Фота Наталлі ТУР.


ВЕТЕРИНАРНАЯ ЛЕЧЕБНИЦА «ВЕТПОМОЩЬ»
• диагностика
• лечение
• профилактика
• стоматологический прием
• офтальмологический прием
• УЗИ органов брюшной полости
• УЗИ глаза
8(0176) 500-699 гор
8(029) 323-51-20 Vel
8(029) 710-56-67 МТС
ул. Волынца, 12Е (возле магазина «220 вольт»)
ИП Булкина С.В. УНП 691896561

ЦАРСКОЕ ЗОЛОТО ювелирная сеть
Летние скидки до 50%
РАССРОЧКА до 12 месяцев
СПЕЦПРЕДЛОЖЕНИЕ: РАССРОЧКА на 3-4 месяца БЕЗ справки о доходах!
ЗОЛОТО*СЕРЕБРО*ЧАСЫ
Молодечно, ул. Притыцкого, 12
(80176) 77-41-97
ООО "БигПрайм" УНП 691511104

Организации требуются
каменщики
повар
Работа вахтовым методом. Зарплата высокая.
Тел. МТС 8-029 55-55-270, 8-025 52-71-933
ООО «ОВС-Инвест» УНП 691519715


Фота "Адкрытая бібліятэка".

## Забілі Паўла Шарамета

**У сераду раніцай у Кіеве на скрыжаванні вуліц Багдана Хмяльніцкага і Івана Франка забілі Паўла Шарамета.**

Вядомага ў Беларусі журналіста ўзарвалі ў машыне, калі той ехаў на працу. Апошнія пяць год Павел Шарамет працаваў ва Украіне.

Шлях у журналістыку Павел Шарамет пачаў у Мінску ў 90-х. Працаваў на тэлебачанні, у выданні "Белорусская деловая газета".

Ужо ў маскоўскі перыяд свайго жыцця Павел Шарамет разам са сваім сябрам тэлеаператарам Дзмітрыем Завадскім рабіў рэпартаж з беларуска-літоўскай мяжы з пункту пропуску "Каменны Лог". "Шарамет мяняе камеру" – загаловак з першай старонкі нашай газеты за 1 жніўня 1997 года. Шарамет разам з іншымі членамі здымачнай групы быў абвінавачаны ў незаконным групавым перасячэнні дзяржаўнай мяжы Беларусі.

Ашмянскі раённы суд прыгаварыў журналіста да двух гадоў умоўна і аднаго года выпрабавальнага тэрміну.

Пасля зноў была праца ў Маскве на канале ОРТ, Шарамет стварыў сайт "Белорусский партизан", пяць год таму пераехаў у Кіеў.

"Кожны ў сваім жыцці робіць выбар самастойна. І кожны свядома ідзе на тую ці іншую рызыку. Нават цяпер, у прынцыпе, я ні пра што не шкадую. Галоўнае, што маё сумленне чыстае...", – сказаў некалі Павел пра свой выбар у жыцці. У сераду гэта жыццё трагічна абарвалася.

**Шаснаццаць гадоў таму ў Нацыянальным аэрапорце, чакаючы прылёту свайго сябра Паўла Шарамета, бясследна знік Дзмітры Завадскі. У сераду пры загадкавых абставінах у Кіеве загінуў сам Павел. Ён так і не дазнаўся, што сталася з калегам, сябрам і паплечнікам.**

Прэзідэнт Украіны **Пятро Парашэнка** даручыў праваахоўным органам максімальна хутка і скрупулёзна правесці расследаванне гэтага забойства, не выключаючы ніводнай версіі.

– Мне здаецца, што гэта зроблена з адной мэтай – дэстабілізаваць сітуацыю ва Украіне, – сказаў Парашэнка на нарадзе з кіраўніцтвам сілавых структур у дзень забойства Паўла Шарамета.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты" смуткуе з прычыны трагічнай смерці свайго калегі і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Паўла Шарамета.**


Фота ТАСС.

Дзмітры Завадскі (злева) і Павел Шарамет у час суда па абвінавачанні ў незаконным перасячэнні мяжы. Ашмяны, 1997 год.

# Здымак баршчэўніку – прыродная інспекцыя удакладняе

ВІЛЕЙКА

**У мінулым нумары, што выйшаў у пятніцу, 15 ліпеня, быў надрукаваны матэрыял пра тое, як з зараснікамі баршчэўніку змагаюцца жыхары Лебедзева і навакольных вёсак.**


Фота забяспечанае Вілейскай раённай інспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Будынак, ля якога ў 2013 годзе рос баршчэўнік, цяпер выглядае так.

Ілюстрацыяй да матэрыялу мы выбралі фотаздымак 2013 года, які быў зроблены ў Любані, пра што папярэдзілі нашых чытачоў подпісам: "Фота з архіва РГ".

Вілейская раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя прынцыпова падышла да інфармацыі, змешчанай у артыкуле, і выслала нам фотаздымкі таго месца, якое некалькі гадоў таму было ў зараснікаў баршчэўніку.

Да дасланых фотаздымкаў Вілейская раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя прыклала наступны ліст:

"У сувязі з тым, што фотаматэрыял не адпавядае рэчаіснасці, просім паведаміць час (год) фатаграфавання вышэйпаказанай тэрыторыі. Скажэнне інфармацыі не дадае аўтарытэту вашай газеце і негатыўна ўплывае на рэпутацыю землекарыстальнікаў (ААТ "Новая Любанія" з'яўляецца ўласнікам цэха па разліву мінеральнай вады, які быў паказаны на фатаграфіі). Прапануем фатаграфію тэрыторыі цэха ААТ "Новая Любанія". Добраўпарадкаванне тэрыторыі праведзенае некалькі гадоў, таму і баршчэўнік на ёй расці не мог. Спадзяёмся на вашу аб'ектыўнасць".

Мы ж у сваю чаргу спадзяёмся, што фотаздымак, які мы змясцілі ў артыкуле, ніякім чынам не паўплывае на нашы добрыя адносіны з Вілейскай раённай інспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Дзякуем вам за пільнасць і прынцыповасць.

**Наталля ТУР.**

## Майстар ЖРЭУ: абірайце вы гэтыя вішні! Хіба нам шкада?

МАЛАДЗЕЧНА

Лета – самы час частавацца сезоннымі ягадамі і садавінай.

І калі пайсці на рынак і купіць шклянку ягад – гэта відавочна і проста, то парэчкі ці вішні, якія растуць у двары нашых шматпавярховак, так і спакушаюць сваёй даступнасцю і тым, што яны "нічые".

Вось такая гісторыя адбылася ў двары аднаго з жылых дамоў у Маладзечне.

Пра яе расказала наша чытачка **Алена Бяганская**. Яна – мама траіх дзяцей:

– У двары расце куст чырвоных парэчак. Я ўзяла пластыкавую бутэльку і вырашыла назбіраць ягад сваім дзецям. І раптам з пад'езда выскачыла жанчына ў гадах і стала адбіраць у мяне бутэльку, абражаць і сыпаць праклёнамі. А яшчэ мяне называла мяне зладзейкай. Жанчына гаварыла, што гэты куст пасадзіла яна. У двары расце такі ж куст чорных парэчак, які абсыпаўся, бо яго так ніхто і не абабраў.

Па каментар, хто ж усё ж такі мае права збіраць ягады ў двары шматпавярховак, мы звярнуліся да намесніка дырэктара па ідэалагічнай рабоце "Камунальніка" **Валеры Альшэўскага**:

– Не ўцягвайце ў спрэчку двух суседак "Камунальнік", мы тут абсалютна ні пры чым, – адказаў Валеры Альшэўскі.

А ў адным ЖРЭУ горада майстар сказаў:

– Да мяне сёння прыйшлі людзі, папрасілі лесвіцу, каб абабраць вішні, я даў, хіба ж мне шкада тых ягад? Абы дрэва не ламалі.

Наўрад ці адказ "Камунальніка" або ЖРЭУ задаволіць і нашу чытачку, і яе суседку, якая абараняе тыя кусты, якія садзіла сваімі рукамі.

Але ці не прасцей проста памірыцца і не псаваць нервы і настрой адна адной з-за нейкай шклянкі ягад? Суседзі, пажадайце адно аднаму смачна есці і жывіце дружна, як наказваў Кот у адным вядомым мультыку.

**Наталля ТУР.**

## Сірэны, мігалкі і шэраг пажарных машын напалохалі жыхароў дома №1-а па Касманаўтаў

МАЛАДЗЕЧНА

Нядзельны вечар 17 ліпеня прымусіў жыхароў першага пад'езда па вуліцы Касманаўтаў паднясць усіх суседзяў па трывозе, а жыхароў навакольных дамоў правесці недзе гадзіну на сваіх балконах у чаканні адказу на пытанне: што здарылася?

**Алена Казакова**, жыхарка пад'езда, расказала, што адбывалася вечарам выхаднога дня:

– Недзе ў гадзін пяць вечара мы, жыхары пад'езда, пачулі пах дыму. Прынюхваліся і праз некаторы час зразумелі, што пах не сыходзіць, а наадварот, да яго дадаецца пах гару.

Суседзі рэйдам прайшлі па паверхах, пазванілі ў кватэры.

– У трох кватэрах дзверы ніхто не адчыніў. Вырашылі выклікаць выратавальнікаў.

Прыехалі адразу тры машыны, за ёй яшчэ адна.

Выратавальнікі вызначылі, што пах дыму ідзе з кватэры на першым паверсе.

– Я не ведаю, як яны трапілі ў кватэру, – дадае Алена, – але гаспадара, там кватэру наймае хлопец, дома не было.

– Абышлося без ахвяр? – пытаюся ў пажарных, якія скручваюць пажарныя рукавы.

– І дзякуй богу, а то, бывае, трапляеш у кватэру, а там цэлы ляжаць. А тут усё нармальна.

Перапалох нарабіла каструля, якую хлопец пакінуў на пліце.

**Наталля ТУР.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Пабудавалі дом для медыкаў

## Узвялі яго з мясцовых экалагічна чыстых матэрыялаў

МЯДЗЕЛ

**У вёсцы Занарач на Мядзельшчыне медыкам перадалі сімвалічны ключ ад жылога дома.**

У ім – дзве кватэры з усімі выгодамі. Тут на час працы будуць жыць працаўнікі Занарацкай амбулаторыі доктара агульнай практыкі: памочнік доктара **Вераніка Шабан** і медсястра **Алена Пашкевіч**.

### Дом будавалі з прыродных матэрыялаў

Плошча дома перавышае 120 квадратных метраў. Будавалі яго з выкарыстаннем экалагічна чыстых, прыродных мясцовых матэрыялаў.

– Аснова будынка – магутны драўляны каркас, якія ўсталяваны на жалезабетоннай пліце, – расказаў выканаўчы дырэктар міжнароднага дабрачыннага грамадскага аб'яднання "ЭкаБудаўнік" **Юры Супрыновіч**. – Сцены каркаса запоўненыя сумессю гліны, дранкі і вады, а ўцяплілі цеплаізаляцыйнымі плітамі з трыснягу. Перакрыцце таксама ўцяплілі трыснягом. Пліты выраблялюцца на прадпрыемстве ў Занарачы з трыснягу, які нарыхтоўвалі на возеры Нарач.

Праект распачаўся ў 2014 годзе. "РГ" паведамляла, што тады ва ўзвядзенні дома прымалі ўдзел 20 валанцёраў з Беларусі і Германіі. Сярод іх былі студэнты, рабочыя і пенсіянеры.

"ЭкаБудаўнік" арганізоўваў і каардынаваў праект. Будаўніцтва фінансавалася са сродкаў, якія выдзяляліся праз арганізацыю "Дамы замест Чарнобыля" Федэральным Міністэрствам па эканамічным супрацоўніцтве (Германія). Добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол дома, падключэнне яго да вонкавых сетак і камунікацый, унутранае аздабленне сцен і выдаткі па далейшым утрыманні дома ўзялі на сябе Мядзельскі райвыканкам і цэнтральная раённая бальніца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Крыстафа ДЗЯМБОЎСКАГА.

Перадаюць сімвалічны ключ ад дома.

**Даведка "РГ".** Гэты праект – працяг пачатага ў 1994 годзе доўгатэрміновага супрацоўніцтва МДГА "ЭкаБудаўнік" са сваім нямецкім партнёрам, дабрачыннай арганізацыяй "Дамы замест Чарнобыля" пры падтрымцы райвыканкама і Дэпартамента па гуманітарнай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Беларусі.

Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 13.07 | | 20.07 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | 8,00 | 80 000 | 8,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 24 700 | 2,47 | 24 700 | 2,47 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 500 | 1,45 | 13 000 | 1,30 |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | 1,45 | 14 500 | 1,45 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 28 500 | 2,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 16 500 | 1,65 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 8 500 | 0,85 |
| Часнок, 1 кг (малады) | 69 500 | 6,95 | 64 500 | 6,45 |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 8 900 | 0,89 | 8 500 | 0,85 |
| Морква, 1 кг (маладая) | 11 900 | 1,19 | 11 000 | 1,10 |
| Баклажаны, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 24 900 | 2,49 |
| Лімоны, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 24 000 | 2,40 | 26 500 | 2,65 |
| Мандарыны, 1 кг | 39 900 | 3,99 | 39 900 | 3,99 |
| Нектарыны, 1 кг | 43 900 | 4,39 | 34 500 | 3,45 |
| Абрыкосы, 1 кг | 30 000 | 3,00 | 29 900 | 2,99 |
| Ківі, 1 кг | 27 000 | 2,70 | 27 000 | 2,70 |
| Буракі, 1 кг | 12 500 | 1,25 | 10 000 | 1,00 |
| Памідоры, 1 кг | 16 500 | 1,65 | 23 000 | 2,30 |
| Агуркі, 1 кг | 13 900 | 1,39 | 7 900 | 0,79 |
| Перац, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 19 900 | 1,99 |
| Кавун, 1 кг | 10 000 | 1,00 | 8 000 | 0,80 |
| Дыня, 1 кг | 30 000 | 3,00 | 20 000 | 2,00 |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 8 500 | 0,85 | 7 000 | 0,70 |
| Вінаград, 1 кг | 43 000 | 4,30 | 44 500 | 4,45 |
| Бананы, 1 кг | 22 500 | 2,25 | 23 500 | 2,35 |
| Яблыкі, 1 кг | 13 500 | 1,35 | 14 500 | 1,45 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 32 500 | 3,25 | 32 500 | 3,25 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 10 000 | 1,00 | 6900 | 0,69 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УП «МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»

ОЦЕНКА
- оборудования
- транспортных средств
- недвижимости и земельных участков
- бизнеса

ПЕРЕВОДЫ
- высокий профессиональный уровень
- короткие сроки
- конкурентные цены

КУРСЫ ИНОСТРАННЫХ ЯЗЫКОВ
- английский
- немецкий
- польский

г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: 8 (0176) 70 31 15, 70 31 16, 8 (029) 635 35 74
e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by УНП 100144204

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.07 | 21.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0046 | **1,9776** |
| Еўра | 2,2148 | **2,1879** |
| Злоты, 10 | 5,0438 | **5,0011** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,1333 | **3,1396** |
| Грыўня, 100 | 8,0806 | **7,9726** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 20.07** | | |
| Еўра | 2.2000/2.2300 | **2.1600/2.1900** |
| Долар ЗША | 1.9850/2.0100 | **1.9600/1.9830** |






Універсітэт Лазарскага

Вядучы прыватны ўніверсітэт бізнесу і права ў Польшчы

www.lazarski.ru
tel. +48 500 167 406
e-mail: belinfo@lazarski.edu.pl

Універсітэт Лазарскага, Рэспубліка Польшча, г. Варшава

## Кіроўца аўтобуса "сямёркі" пры развароце пашкодзіў аўтамабіль

**МАЛАДЗЕЧНА**

Позна вечарам, каля 23:35, на канцавы прыпынак па вуліцы Лясной прыехаў аўтобус маршруту №7, за рулём якога знаходзіўся 28-гадовы кіроўца.

Ён высадзіў пасажыраў, заглушыў матор і стаў чакаць прызначанага часу, каб зноў выехаць на маршрут.

Прыкладна ў гэты ж час непадалёк ад прыпынку спыніўся аўтамабіль "Опель-Амега", за рулём якога знаходзіўся 24-гадовы кіроўца.

Хлопец выйшаў з машыны, каб папрасіць вартаўніка гаражоў, якія знаходзяцца побач, адчыніць вароты.

У гэты час кіроўца "сямёркі" пачаў разварочвацца. Як потым мужчына тлумачыў супрацоўнікам ДАІ, ён бачыў, што за аўтобусам стаіць машына, думаў, што ўдасца развярнуцца, але не разлічыў і зачапіў "Опель".

Кіроўца аўтобуса аштрафаваны на 21 рубель.

Пра здарэнне расказаў інспектар Маладзечанскай ДАІ Сяргей Бартош.

## Кіроўца з Маладзечна згубіла па дарозе... кола

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося непадалёк ад вёскі Дамашы 16 ліпеня.

24-гадовая маладзечанка ехала на аўтамабілі "Нісан-Прымера" з боку вёскі Лебедзева ў Маладзечна.

Раптам ля Дамашоў яна адчула, што машыну пачынае трэсці і кідаць у бакі.

Кіроўца спынілася і заўважыла, што... у яе няма пярэдняга левага кола.

А на невялікай адлегласці на ўзбочыне дарогі стаіць аўтамабіль "Альфа-Рамэа" і міргае аварыйнай сігналізацыяй.

Як потым тлумачыў кіроўца аўтамабіля "Альфа-Рамэа" супрацоўнікам ДАІ:

– Еду я ў бок Смаргоні, нікога не чапаю. Раптам у машыны, з якой я размінаўся, адскоквае кола і коціцца на маю машыну. Я, канешне, затармазіў, але кола паспела памяць і падрапаць машыну.

Дзяўчына-кіроўца заплаціла штраф 10 рублёў 50 капеек за тое, што не праверыла перад выездам тэхнічны стан свайго аўтамабіля.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

**Наталля ТУР.**

## Машына ў тумане праехала па маладзёну

**АШМЯНЫ**

Да прыезду "хуткай дапамогі" малады чалавек загінуў.

Здарэнне адбылося 14 ліпеня каля дзвюх гадзін ночы каля вёскі Гіргіляны.

"Фольксваген" ехаў у тумане. На праезнай частцы ляжаў маладзён. Машына пераехала праз яго.

За рулём быў аднавяскоўец загінулага, якога 5 ліпеня пазбавілі правоў на кіраванне.

Мяркуецца, што загінулы быў нецвярозы. На ім не было флікераў.

**Gaigrodno.by.**

## Каля Плябані ў сераду адбылася страшная аварыя

**МАЛАДЗЕЧНА**

Легкавы аўтамабіль сутыкнуўся з машынай "хуткай дапамогі".

Аб тым, што каля Плябані адбылася аварыя з удзелам рэанімабіля, "Рэгіянальнай газеце" паведаміў чытач.

На момант здарэння было вядома, што машына "хуткай дапамогі" належыць дзіцячай бальніцы.

Легкавы аўтамабіль Great Wall выкінула за межы праезнай часткі, кіроўцу заціснула ў дэфармаваным салоне. Паслей 33-гадовага мужчыну, які атрымаў траўмы ног, дэблакавалі ратавальнікі. Ён у бальніцы.

На рэанімабілі перад сутыкненнем былі ўключаныя пробліскавыя маячкі. У салоне знаходзіліся фельчар і пацыентдзіця, ні яны, ні кіроўца рэанімабіля не пацярпелі, паведамілі ва УМНС па Мінскай вобласці.

**Аддзел інфармацыі.**

ЦЕНТРАЛЬНЫЙ (г.МИНСКА) ОТДЕЛ
Департамента охраны МВД Республики Беларусь
приглашает на службу на должности:
• МИЛИЦИОНЕРА
• МИЛИЦИОНЕРА-ВОДИТЕЛЯ
Требования: возраст до 28 лет, образование не ниже среднего, годные к строевой службе
Предлагаем: стабильную зарплату, полный соц.пакет, общежитие или компенсация за найм жилья, 2 года службы в Департаменте охраны идут в зачет службы в армии
З/п от 6 000 000 руб. (600 руб.)
Тел. 8 (017) 327-38-08, 8 (029) 761 29 14
8 (029) 606-21-28, 8 (017) 203-46-95
УНП 100060804



Не дазваляйце дзецям гуляць каля акна, калі яны могуць яго адчыніць. Фота luxfon.com.

# Што зрабіць, каб дзіця не выпала з акна

**Следчы камітэт прааналізаваў даследчыя праверкі па фактах гібелі дзяцей, якія выпалі з вокнаў**

**Сёлета пры такіх абставінах у Беларусі загінула пяцёра дзяцей.**

26 сакавіка з кватэры на пятым паверсе ўпаў двухгадовы хлопчык у Магілёве. Днём 23 мая з восьмага паверха ў Брэсце ўпаў хлопчык 2013 года нараджэння. Нягледзячы на спробы медыкаў выратаваць, вечарам хлопчыка не стала. Праводзяць праверку па факце смерці пяцігадовай дзяўчынкі, якая выпала з пятага паверха ў Гродне.

Мінскі Следчы камітэт праводзіць праверку па факце смерці трохгадовага хлопчыка, чыё цела без прыкметаў жыцця знайшлі 2 ліпеня. Паводле папярэдніх дадзеных, дзіця выпадкова ўпала з балкона на дзявятым паверсе. Вечарам 4 ліпеня ў Лоеве пасля падзення з чацвертага паверха загінула двухгадовая дзяўчынка.

Прааналізаваўшы гэтыя выпадкі, робім высnову, што апісаныя трагедыі адбыліся ў той ці іншай ступені па віне дарослых – па недаглядзе ці залішняй ндбайнасці.

Адным са сродкаў прафілактыкі выпадзення дзяцей з вокнаў можна разглядаць абсталяванне вокнаў запорнымі прыладамі, блакіратарамі, якія не дадуць дзіцяці самастойна адчыніць акно.

Вытворцы вокнаў прапануюць розныя практычныя рашэнні, якія могуць выкарыстоўвацца не толькі ў кватэрах і дамах, але і ў школах, дзіцячых садках і яслях. Сярод іх спецыяльныя сістэмы фурнітуры, замкі для акна ад дзяцей, а таксама ручка з ключом. Перавага дзвюх апошніх прапаноў у тым, што іх можна дадаць да ўжо ўсталяваных пластыкавых вокнаў.

**Юры БАГУШЭВІЧ, старшы следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта, маёр юстыцыі.**

## Падмануў міліцыю, што скралі аўтамабіль

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У адзін з дзён лютага мужчына здзейсніў адміністрацыйнае правапарушэнне і спрабаваў збегчы з месца здарэння на сваёй машыне.**

Але машыну заўважыў пільны грамадзянін, які запісаў нумар аўто.

Каб пазбегнуць адказнасці, гаспадар машыны пакінуў аўто на месцы правапарушэння. А пасля заявіў у Следчы камітэт, што яго транспартны сродак угнаў невядомы.

Падчас праверкі Следчы камітэт устанавіў, што аўтамабіль ніхто не ўганяў, пра што ўласніку, канешне, было вядома.

Мужчына больш не патрабаваў знайсці ўгоншчыка і прыцягнуць яго да адказнасці. Ён зразумеў, што падман раскрылі.

Але ўсё ж да адказнасці прыцягнулі... прычым самога заяўніка.

Раней неадназова судзімаму ўраджэнцу Маладзечна прад'явілі абвінавачанне ў заведама непраўдзівым даносе аб злачынстве.

Абвінавачаны цалкам прызнаў віну.

У чэрвені прыгавор суда ўступіў у законную сілу. Паводле яго, маладзечанцу прызначылі пакаранне – 1,5 года абмежавання свабоды без накіравання ў выпраўленчую ўстанову.

За заведама непраўдзівы данос Крымінальны кодэкс прадугледжвае пакаранне да пяці год пазбаўлення свабоды.

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 2 класа.**

## Выйшаў на рэйкі і ішоў, не азіраючыся. Ад чаго летась чацвёра загінулі на чыгунцы

**Летась ад мая да верасня на чыгунцы ў Маладзечанскім раёне смяротна траўмавала чатырох чалавек.**

Чатыры выпадкі адбыліся вечарам ці ноччу, адна трагедыя здарылася ў горадзе, астатнія – у раёне. У трох выпадках пацярпелыя былі нецвярозыя. Гэта разам з няўважлівасцю і невыкананнем правілаў бяспекі каштавала жыцця.

Маладзечанскі выпадак адбыўся 10 верасня каля 18 гадзін ля пераезда на вуліцы Гарадоцкай. Машыніст убачыў мужчыну ў 150 метрах ад цягніка. Той ішоў у спадарожным накірунку. Машыніст падаў гукавы сігнал, але мужчына за 50 метраў да цягніка выйшаў на рэйкі і пайшоў далей, не азіраючыся. Машыніст працягваў сігналіць і пачаў экстранна тармазіць, але пазбегнуць трагедыі не ўдалося.

У выніку 45-гадовы маладзечанец загінуў на месцы. Ён быў цвярозы.

Былі выпадкі, калі людзі неапраўдана рызыкавалі на чыгунцы. Напрыклад, вечарам 10 мая ў Алёхнавічах машыніст цягніка "Адлер-Калінінград" убачыў, што насустрач цягніку бегла жанчына. Машыніст і яго памочнік падавалі гукавыя сігналы. Зразумеўшы, што жанчына вырашыла перабегчы праз пешаходны пераход насупраць станцыі, да 30 метраў да пераходу цягнік экстранна затармазіў. Але жанчына не адрэагавала на гэта і пачала перабягаць праз палатно.

Пазбегнуць наезду не атрымалася. 57-гадовая мінчанка, якая вярталася з лецішча дадому, загінула. Яна была нецвярозая.

Просім вас быць надзвычай уважлівымі на чыгунцы. Пераходзьце праз палатно толькі ў вызначаных месцах, калі ўпэўніліся, што не набліжаецца цягнік.

**Юры БАГУШЭВІЧ, старшы следчы Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта, маёр юстыцыі.**

Московскому (г. Минска) отделу Департамента охраны МВД РБ требуются сотрудники на должности
МИЛИЦИОНЕРА, МИЛИЦИОНЕРА-ВОДИТЕЛЯ
Требования: возраст до 25 лет, признанные годными к службе, предпочтение – прошедшим срочную службу в ВС РБ.
Сотрудники имеют возможность пройти обучение на курсах водителей кат. В.
Предоставление жилья либо компенсация за найм жилья. Полный соц.пакет.
Зарплата от 6 500 000 руб. (650 руб.)
Тел. (017) 213 16 06, моб.(029) 262 92 71, (029) 129 56 83
г. Минск, ул. К.Либкнехта, 49
УНП 100302509

# Сюжэт кнігі пра Агінскага: маладзечанскі замак зруйнавалі зомбі

МАЛАДЗЕЧНА

**Першы зомбі-хорар на беларускай мове збіраецца выдаць Уладзімір Садоўскі з Маладзечна.**

Кніга “1813” – псеўдагістарычны твор. Аўтар узяў рэальных гістарычных асоб і ўмовы, у якіх яны жылі, але стварыў для іх абсалютна фантастычную гісторыю.

Такі жанравы эксперымент прадугледжвае альтэрнатыўны варыянт гісторыі. Уладзімір распавядае пра тое, што ідэя кнігі з’явілася ў літаратурным гуртку. Удзельнікам у Палацы культуры прапанавалі напісаць пра ўнёсак Агінскага ў культуру Маладзечаншчыны.

“Мне такая практыка не вельмі спадабалася, оды на загад я ствараць не збіраўся і падумаў, што калі і напішу штонебудзь пра Міхала “наша ўсё” Клеафаса Агінскага, то ў маім творы граф будзе не музіцыраваць і штурхаць пафасныя прамовы пра лёс Айчыны, а калашмаціць орды зомбі направа і налева з шабляй і пістолям наперавес. Спачатку я палічыў гэту ідэю проста жартам, але з часам сур’ёзна задумаўся над напісаннем менавіта такой гісторыі”, – распавядае малады пісьменнік.

Кніга “Аўраам Лінкальн: паляўнічы на вампіраў” канчаткова вызначыла рэчышча, у якім аўтар напіша твор: надаваць рэальным гістарычным падзеям фантастычны альтэрнатыўны сэнс. У кнізе “1813” платформай для эксперыменту стаў час пасля вайны 1812 года, калі Агінскі прыязджае ў маладзечанскі замак да дзядзькі. Пасля адлігі забітыя салдаты паўстаюць і пачынаюць наводзіць страх на мясцовых.

У размове з карэспандэнтам “РГ” Уладзімір расказаў, як рыхтаваўся, каб стварыць антураж апісанай эпохі:

– Я прачытаў кнігу пра Агінскага, а таксама шмат чытаў у інтэрнэце пра тагачасную форму, вопратку, зброю. Глядзеў гістарычныя фільмы.

Агінскі – цэнтральны персанаж, ён рушыць дзеянне, усё адбываецца вакол. Можа, крытыкі скажуць, што мне не ўдалося аказвіць яго. На маю ж думку, у творы ён паўстае як патрыёт, якога кранае бяда, якая напаткала родныя землі. У тэксце таксама ёсць флэшбэкі, дзе Агінскі ўзгадвае сябе маладога, яшчэ паўстанцам у арміі Тадэвуша Касцюшкі. У асноўным дзеянні Міхал – гэта чалавек за 40, з важным чынам.

**– Ці сышоў час чыста гістарычных кніг з узроўнем рэалістычнасці як у Вальтэра Скота, саступіўшы месца літаратурным эксперыментам?**

– Сапраўды, у мяне не гістарычная кніга, а сумесь жанраў. Мне важна было стварыць атмасферу таго перыяду. У большасці чытачоў наўрад ці будзе шмат ведаў пра дэталі, напрыклад, што елі, якімі лыжкамі. Таму я вывучыў перыяд настолькі, каб дадаць некалькі адметных штрышкоў. Я зусім не збіраўся пісаць твор, па якім бы вывучалі гісторыю ў школе. Якраз наадварот, наўмысна ўвёў гістарычныя недакладнасці. Калі чытач будзе капаць, то знойдзе шмат нестыковак з рэальнасцю.

**– Ці чакаеце вы непрыняцця твора з-за таго, што ўзялі святое і апаганілі зомбі?**

– Пакуль твор цалкам чыталі толькі мае сябры, у іх такіх забабонаў няма. Ва ўсім свеце цяпер мода на зомбі, у фільмах, кнігах. Мяркую, што адштурхоўвацца трэба ад таго, што адбываецца ў свеце, як развіваецца сусветная культура.

Караткевіч зусім не сумна пісаў гістарычныя кнігі, без пафасу, і гэта толькі пайшло на карысць творам.

Што тычыцца “1813”, то ў першую чаргу гэта забаўляльны твор. На маю думку, сама гісторыя будзе больш цікавай, калі яе так падаваць. А там ужо асоба Агінскага можа зацікавіць, і чалавек захоча вывучыць яго рэальны лёс.

**– Чым ваша кніга прывабіць?**

– Для нашых людзей такая форма – гэта навінка. Мода на зомбі ў свеце існуе не адно дзесяцігоддзе як забаўляльны элемент. А вось у беларускім культурным асяроддзі такога яшчэ не было.

**– З чым плануеце эксперыментаваць у наступнай кнізе?**

– У наступныя творы сябры суполак філаматаў і філарэтаў у мяне паўстануць у якасці паляўнічых за дэманамі.

Усё будзе па такім жа прынцыпе: рэальнаму факту знойдзецца альтэрнатыўная фантастычная трактоўка. Вось, напрыклад, як у “1813” я тлумачу, чаму зруйнаваны маладзечанскі замак – на яго напалі зомбі і разбурылі.



Уладзімір Садоўскі з жонкай Наталляй. Фота vk.com.

## Урывак з кнігі “1813”

“Збіраючыся ў сядло, Міхал думаў над словамі плябана: “Мерцвякі ходзяць, што ён выдумаў? Быць гэтага не можа”. Агінскі накіраваўся да замка. Ён разважаў, як сказаць дзядзьку аб тым, што дапамогі ад трынітарыяў чакаць не варта. Краем вока граф заўважыў рух каля адной з разбураных хат. Там быў чалавек. Стоячы на каленях спінай да Міхала, ён апусціў галаву і нешта рабіў рукамі перад сабой. “Пэўна, вогнішча разводзіць”, – мімаходзь падумаў Агінскі. На мужчыну быў сіне-чырвоны шынель вайсковага крою. Ён быў настолькі захоплены сваёй справай, што не звяртаў на конніка ўвагі. Міхал не стаў яго аклікаць і проста паехаў далей.

Праз хвіліну, калі вершнік знік за паваротам, чалавек азірнуўся. Зямлісты твар мужчыны быў выпацканы крывёй. Скрозь парваныя вусны бачыліся скрываўленыя дзясны з чорнымі зубамі. Здавалася, што чалавек усміхаецца”.

### Кніга на паперы пад пытаннем

У кнізе “1813” акрамя асноўнай навелы будзе блок фантастычных апавяданняў Уладзіміра Садоўскага.

Адметнасць у тым, што малады пісьменнік збіраецца выдаваць электронную кнігу, і толькі некалькі адзінак убачаць свет у друкаваным выглядзе. Уладзімір лічыць, што электронныя больш зручныя, эканамічныя і экалагічныя.

Але і такая кніга патрабуе выдаткаў. Патрэбная карэктура, рэдактура, вёрстка, а таксама аплата міжнароднага стандартнага кніжнага нумара, які прысвойваецца кожнай кніжцы і неабходны для іх распаўсюду.

Малады аўтар збірае грошы на праект праз платформу “Улей”, на якой кожны можа прапанаваць свой праект, пазначыць суму, якая патрэбная для рэалізацыі, і прапанаваць ахвотным уносіць у праект столькі грошай, колькі самі выберуць.

У праект Уладзіміра можна ўкласці ад двух рублёў. На момант напісання публікацыі на кнігу пералічылі 46% ад неабходнай сумы.

Уладзімір не выключае, што папяровыя кнігавыдаўцы могуць зацікавіцца творам і прапанаваць традыцыйную публікацыю.

### Уладзімір Садоўскі – пісьменнік-пачатковец і малады бацька

Уладзіміру 29 год. Працаваў у Маладзечанскіх электрасетках, цяпер працуе інжынерам-праектантам у мінскай арганізацыі. Выпускнік гімназіі №7, скончыў БНТУ.

Ён вядзе краязнаўчы блог, быў аўтарам некалькіх гістарычных артыкулаў у “РГ”.

13 ліпеня ў яго і жонкі Наталлі нарадзіўся сын Адам.

Уладзімір выкладаў свае творы ў блогу, а вось першай апублікаванай кнігай якраз і рызыкуе стаць “1813”.

**Даведка “РГ”.** Флэшбэк – мастацкі прыём, калі часова спыняецца аповед асноўнай сюжэтнай лініі, каб паказаць падзеі мінулага.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

**Молодечненский государственный колледж**

**продолжает приём документов**

для получения среднего специального и профессионально-технического образования

Подробности на сайте **molgc.by.**

Тел. **(80176) 74-72-21, (8044) 733-14-95, (8025) 922-98-91.**

Адрес: **Молодечно, ул. Городокская, 111.**

УО "Молодечненский государственный колледж" УНП 600182693.

*Целеустремлённые, энергичные, желающие получить востребованную профессию и стать конкурентоспособным специалистом – это информация для вас!*

**УО "Вилейский государственный колледж" ПРИГЛАШАЕТ НА ОБУЧЕНИЕ**

**С 15 июля** НАЧИНАЕТСЯ ПРИЁМ ДОКУМЕНТОВ на уровень среднего специального образования, а также ПРОДОЛЖАЕТ ПРИЁМ ДОКУМЕНТОВ на уровень профессионально-технического образования

Подробная информация на сайте: **VILGK.BY**

и по телефонам **(801771) 5-43-88, (8029) 279-81-31**

*Стань одним из наших студентов!*

УО "Вилейский государственный колледж" УНП 600178633




Фота Марыны СЕРАБРАКОВАЙ, budzma.by.

Шаблі. Якое свята без танцаў!




Фота Марыны СЕРАБРАКОВАЙ, budzma.by.

Шаблі. Фестываль – час для адпачынку напоўніцу.

## Фестываль "Вольнае паветра" зладзілі восьмы раз

**ВАЛОЖЫН**

Імпрэза адбылася 16 ліпеня на хутары Шаблі.

На фестывалі выступалі беларускія калектывы, якія звяртаюцца да народнай музычнай культуры.

## Пленэры для мастакоў і скульптараў пройдуць у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА**

Горад ладзіць іх як сёлетняя культурная сталіца краіны.

Ад 1 да 13 жніўня пройдзе адкрыты пленэр мастакоў "Маладзечна АРТ-2016". Рэспубліканскі пленэр скульптараў па камяні "Вернісаж камянёў" мае адбыцца ад 1 да 31 жніўня.

Творчыя праекты прадугледжваюць комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на стварэнне, паказ, распаўсюд і папулярызацыю твораў мастацтва. Яны ўключаюць урачыстыя цырымоніі адкрыцця і закрыцця, выезды на замалёўкі і эцюды, выніковую выставу выяўленчага і скульптурнага мастацтва, творчыя сустрэчы, майстар-класы, абмен досведам, шырокую культурную праграму.

Мерапрыемствы накіраваныя на развіццё дыялогу паміж краінамі, рэалізацыю сумесных мастацкіх праектаў, развіццё прафесійнага мастацтва.

Удзельнічаць будуць мастакі з Арменіі, Беларусі, Балгарыі, Ізраіля, Кітая, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Эстоніі.

Паводле паведамлення маладзечанскага Палаца культуры.

## На Вілейшчыне з'явіўся крыж у гонар пакутнікаў за Беларусь

**ВІЛЕЙКА**

10 ліпеня беларускія праваслаўныя вернікі адзначалі Свята Сабора Беларускіх Святых.

У прыходзе вёскі Любань Вілейскага раёна гэта яшчэ і прастольнае свята, бо ў 2004 годзе новапабудаваная царква была асвечаная ў гонар Святых нашай зямлі.

Сёлета да гэтага свята ля храма быў узведзены вялізны крыж. Ён мае форму крыжа Еўфрасінні Полацкай і ўсталяваны ў гонар пакутнікаў за Беларусь.

"З дабраслаўлення Епіскапа Маладзечанскага і Стаўбцоўскага Паўла крыж асвечаны ў гонар пакутнікаў і вызнаўцаў беларускай зямлі і ўсіх вядомых і невядомых людзей, якія загінулі за Веру бацькоў і Незалежнасць Бацькаўшчыны", – кажа настаяцель айцец Ігар Дражын.

Крыж размяшчаецца на пагорку ля трасы Маладзечна-Мядзел, з якой добра бачныя сам крыж і малітва на ім: "Дабраславі, Божа, краіну нашу – святую Беларусь!". На другім баку, звернутым да вёскі, малітва: "Збаў, ахіні і памілуй нас, Божа, Тваёй дабрадацю!".

**Аддзел інфармацыі.**

# Да 80-годдзя вучонага і паэта Вячаслава Чамярыцкага

## Ён мае дачыненне і да Вілейшчыны

**ВІЛЕЙКА**

**У беларускім адрыўным календары на дзвюх старонках змешчаны артыкул "Да 80-годдзя Вячаслава Чамярыцкага". Пачынаецца ён са слоў:**




Фота novychas.by.

Вячаслаў Чамярыцкі за рабочым сталом у Інстытуце літаратуры, 2006 год.

"22 ліпеня сваё 80-годдзе адзначыць вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі літаратуразнаўца, крытык, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаслаў Антонавіч Чамярыцкі".

Хоць ён і нарадзіўся на Дзятлаўшчыне, але славуты вучоны мае дачыненне да ўсёй Беларусі, і не толькі. А на Вілейшчыне пасля заканчэння беларускага аддзялення філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, як і гаворыцца ў артыкуле "Працаваў настаўнікам Слабадской сямігадовай школы Вілейскага раёна. Яшчэ ў БДУ Вячаслаў Чамярыцкі пісаў добрыя вершы, а потым яны друкаваліся ў Вілейскай раённай газеце. На жаль, аўтар допісу ў каляндар **Д. Харошыл** не ўзгадвае, што ён быў і кваліфікаваным маладым паэтам, пра што так вобразна пра гэта пісаў у газеце "Слова філолага" **Ніл Гілевіч**, які тое ж аддзяленне заканчваў на два гады раней Вячаслава.

І калі я ў 1958 годзе даведаўся, што да нас у раён едзе малады таленавіты чалавек, то ў першую чаргу бачыў у ім вядомага паэта Беларусі. Памыліўся. Але я рады, што ён у свой час не спыніўся на атрыманай адукацыі. І ўжо праз сем гадоў пасля заканчэння ўніверсітэта скончыў аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства імя Янкі Купалы АН БССР і абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму: "Беларускія прытчы як помнікі літаратуры". Мой таварыш па філфаку выбраў нялёгкі шлях у навуку. І мы ўсе, хто сачыў за ростам нашых сяброў, радаваліся гэтаму.

На пачатку самастойнай работы Вячаслава я ўжо цэлы год працаваў у рэдакцыі Вілейскай раённай газеты. Аўтобусы па раёне хадзілі не ўсюды, не дабіраліся яны і да Слабады. Даводзілася перапісвацца. Іншы раз, калі мне траплялася камандзіроўка ў Іжанскі сельсавет, я выкройваў часіну для наведвання свайго сябра. Але гэта былі імгненныя сустрэчы, якія ў памяці не захаваліся. А вось адно з тагачасных пісьмаў (дата не пазначаная) у архіўнай пошце разам з рукапісамі **Васіля Зуёнка** і **Генадзя Бураўкіна** захавалася. Прывяду яго цалкам:

"Прывітанне сябра!

Як ты ведаеш, я ўмацаваўся ў тваім раёне, толькі не ў Раёўцы (Раёўка ў той час уваходзіла ў Вілейскі раён – Б.М.), а ў Слабадзе Іжанскага сельсавета, аж пад Нарачу.

Працую ў сямігодцы, выкладаю беларускую мову і літаратуру, гісторыю і фізкультуру, маю 23 гадзіны – дастаткова. Наогул, усё добра пакуль што, толькі глуш. Але годзік як-небудзь прасяджу, а там паеду ў дзесяцігодку.

Я помню вашу (тваю і Турцэвіча) просьбу наконт вершаў для літстаронкі. Вершы ў мяне былі і раней, але я неяк не сабраўся прысласць. Высылаю цяпер. Яны ўсе аб каханні, для літстаронкі падыдуць. Пазней прышлю што-небудзь больш надзённае. Каб вы не сумняваліся ў іх хоць маленькай цэннасці, скажу, што вершы гэтыя чыталі яшчэ ў Мінску і **Клышко**, і ўніверсітэцкія паэты і ацэньвалі іх станоўча.

Напішы мне, Барыс, як мне звязацца з праўленнем Маладзечанскага літаб'яднання, хто там цяпер старшыня і яго адрас. Вельмі прашу. (Такое аб'яднанне існавала пры маладзечанскай газеце "Чырвоны сцяг" – Б.М.).

Калі маеш час, то пад'едзь да мяне. Возьмеш матэрыял, і я цябе пачастую грыбамі, свежай рыбай і яшчэ чым-небудзь.

Прымай вершы.

*Тваіх воч ён не бачыў*
*агню,*
*Тваіх губ не адчуў*
*цеплыню,*
*Ты сказала зусім*
*не яму*
*Ціха добрае слова –*
*люблю.*

*Тым шчаслівы,*
*тым толькі жыве,*
*Што цябе можа чуць*
*наяву.*
*Ён – сляпы,*
*прыгажуняй заве.*
*Як жа я цябе назаву?*

***

*Я не прыйшоў,*
*не абагрэў*
*Цябе ні поглядам,*
*ні ласкай.*
*Ля сумных вокан сад*
*гарэў*
*Яшчэ нябачанаю*
*казкай.*

*Пакутліва ты*
*не адну*
*Гадзіну марна*
*прачакала.*
*І здраду вернасці,*
*ману*
*У маім сэрцы ты*
*шукала.*

*А я ўсю ночку*
*да світання*
*Адзін, як палец*
*без рукі,*
*Аб шчасці першага*
*кахання*
*Вымучваў*
*з прагнасцю радкі.*

**Пентаметр**

*Іскра маленькая*
*можа*
*ў вялікім і густым*
*абшары*
*Полымем нат'*
*замучаць,*
*цяжка яго*
*патушыць –*
*Першы пагляд*
*мімалётны*
*пачуццяў узніме*
*пажары,*
*Як жа балюча гасіць*
*іх ў негарэўшай душы.*

Бывай здароў, Барыс. Прывітанне Турцэвічу. Жадаю поспехаў у тваёй цяжкай працы.

Твой Слава".

**Барыс МАНЦЭВІЧ, Вілейка.**

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна**
могуць размясціць аб’яву ў “Рэгіянальнай газеце”, не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.
☎166

Рэгіянальная газета. Rh.by Тэлетыдзень
ТРАНСПАРТ
Вашы аб’явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце “Вечерний Бобруйск”. Адна цана – дзве газеты!
Вечерний Бобруйск

# ПАДЗЯКА

Хачу падзякаваць ўсяму калектыву ААТ “**Рудбонбуд**” (павільён 1, 2-гі паверх ГАЦ “Модуль”) і асабіста дырэктару **Дзмітрыю Аркадзевічу Рудому** за хуткі і якасны выраб і ўстаноўку вертыкальных жалюзі і рольштор.

Кампанія сапраўды выручыла нас, калі дала растэрміноўку плацяжу. Цяпер у нашых акон новая вопратка, а ў нас добры настрой штодзень.

**Шаманюк С.С., Вілейка.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-А3, 2009 г.в., 1,4 бензін, усе опцыі. Т. (8-029) 6470154, (8-029) 8630321.*
- Аўдзі-100, 1984 года, 1,8 бензін, белага колеру, 5 МКПП. Торг пры аглядзе. Т. Лайф (8-025) 9923595.*
- ВАЗ-2107, 1998 г.в., 1,5Б, 5 МКПП, 34 000 км, родны прабег, нефарбаваная, 27 мільёнаў рублёў. Т. (8-029) 1177995.
- Гараж у ГБК-3. Т. Вэлком (8-029) 6719125, МТС (8-029) 2295867.*
- Жыгулі-6 на хаду. Т. МТС (8-029) 2928728.
- Івека Турба-Дэйлі, 49-10, 1997 г.в., 76 кв/т, падагрэў рухавіка на 220 В, вебаста. (8-029) 6470154, (8-029) 8630321.*
- Крайслер-Канкорд, 2000 г.в., 2,7 бензін, АКПП, седан, вялікі і камфортны. Т. (8-029) 7627776.
- Опель-Вектра, 1997 г.в.. 1,8і; 3 990 рублёў, торг. Т. (8-029) 9478578.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Рэно-Кангу, 1998 г.в., 1,4 бензін, на хаду. Магчымы торг. Вілейка. Т. МТС (8-029) 3447837, (8-01771) 28943.
- Сітраэн-С5, 2,0 бензін, 2002 г.в., цёмна-чырвоны, хэтчбэк, торг, 7 тысяч 600 рублёў (76 000 000 рублёў). Т. МТС (8-029) 5007787.
- ФВ Т2, дызель 1,6, легкавы. Т. (8-029) 3187448.*
- ФВ-Пасат В3, 1993 г.в., 19 ТД, выдатны стан, 4 000 руб. Т. (8-029) 8755766.
- ФВ-Пола, 1991 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 6647741.*
- Форд-Мандэа, 1995 г.в., КПП-механіка, 1,8 бензін, серабрысты, пасярэдзіне электрашкло, электралюстэркі, з падагрэвам, велюр, 2 камплекты гумы, л/дыскі R16, 23 мільёны. Т. Вэлком (8-029) 3893298.
- Форд-Сіера, седан, 1988 г.в., 2,0 бензін, серабрысты, выдатны стан, 1785 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 3900337.
- Хундай-Лантра, 1993 г.в, 1,5 бензін. Т. (8-029) 5528466.
- Шаўрале-Ланчэці, 2007 г., 1,6 бензін, прабег – 84 тыс.км, чорны. Вілейка. Т. (8-029) 8589290.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- 3/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

## КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Аўто, можна аварыйнае, не на хаду. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

## ПАСЛУГІ

- Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. Каналізацыя. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, цэнтр, 3-ці паверх. Т. (8-033) 6639658.
- 2-х пакаёвая кватэра ў Астраўцы па адрасе: пер. Кастрычніцкі, 7 (непадалёк ад ЦРБ). 1 паверх 2-х павярховага 8-кватэрнага дома. З рамонтам. Падвал, гараж, участак з градкамі. Спакойны двор. Металічныя дзверы, шклопакеты. Магчымы продаж з мэбляй і бытавой тэхнікай. +375 44 778-48-34. Просьба званіць ад 19 да 22 гадзін. Цана дагаворная.
- 2-х пакаёвая кватэра на трэцім паверсе ў Вілейцы па вул. Гагарына, 15/5. Т. МТС (8-029) 5250422, (801771) 28642.
- 3-пакаёвая кватэра ў аг. Любань. Т. (8-033) 6362026, (8-029) 1212627.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 3 паверх, альбо памяняю на дом. Т. МТС (8-029) 2375721.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у ГК-28 у Маладзечне, бетонны падвал з агляднай ямай, плошча 33,5 кв. м альбо здам. Т. Вэлком 9201988, (8-0176) 773205.
- Гараж вуглавы на 2 машыны альбо пад майстэрню ў Маладзечне, р-н хлебазавода. Т. МТС 2521691.
- Дача ў в. Кардон Вілейскага р-на. Дом, лазня, калодзеж, 7 сотак. Участак крайні, каля леса. Т. (8-029) 2789116.*
- Дача, 3,5 км ад в. Краснае. Нядорага. Т. (8-0176) 548035, Вэлком 9751135.*
- Дом драўляны ў в. Гарадок. Т. (8-029) 7540263. (8-025) 5083187.*
- Дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Кардон Вілейскага р-на. Т. МТС (8-029) 2928728.
- Дом на дачу ў в. Бязводнае Вілейскага р-на. Т. (8-029) 5723243.
- Дом у аг. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6026288.*
- Дом у в. Асанава (5 км ад г. Маладзечна), 0,25 га, 104 кв. м, цэгла, газ, гараж, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 6103459.*
- Дом у в. Тураўшчына. Т. (8-029) 5734675.
- Дом у вёсцы Язжэнцы Мядзельскага р-на, 30 км ад Нарачы, побач рэкі Вузлянка і Нарачанка. Т. (8-029) 7765213.*
- Дом у Вілейцы альбо абменяю на 2-пакаёвую кватэру. Т. Вэлком (8-029) 3348878.*
- Дом у Маладзечне з усімі выгодамі, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом цагляны ў в. Вялікія Кашэўнікі, д.38, без гаспадарчых пабудоў. Цана дагаворная. Т. Вэлком 3262923.
- Катэдж 2-павярховы з усімі выгодамі ў г.п. Чысць. аг.пл. 107 кв.м., сад, хлеў, гараж з ямай, падмурак лазні альбо памяняю на кватэру ў Маладзечне і дом у в. Краснае альбо Радашкавічы. Разгледзім любыя варыянты. Т. (8-029) 7528450, (8-029) 8737765.
- Новы зруб 5.5Ч5.6 м, вышыня 2.4 м, дыяметр бервяна 0.18 м, без кроквaў. Вілейскі р-н. т. (8-029) 3557654.
- Палову дома ў Вілейцы ў р-не Незалежнасці, ёсць усе выгоды. Т. (8-033) 6368364.*
- Гараж у ГБК-1 Вілейкі. Атынкаваны. Бетоннае перакрыццё, падвал з ямай на ўвесь гараж, 9500 рублёў. Т. (8-033) 3020031.*
- Тэрмінова гараж у ГБК-2 у Вілейцы. Т. (8-029) 2008573, (8-01771) 27054.
- Участак 13 сотак з падмуркам 6Ч6, ад Вілейкі 1 км, р-н Вілейскага вадасховішча. Т. (8-033) 6125798 (Ірына).
- Участак 17 сотак у Мядзельскім р-не, в. Баторына, падмурак, 5.6Ч5.6. Т. (8-029) 3557654.

## ЗДАМ

- У арэнду вытворча-складскія памяшканні:190 кв. м, 90 кв. м – р-н ЗПМ; 290 кв. м – Сасновы Бор. Асобная тэрыторыя. ТАА “Малметалкантракт” УНП 691398156. Т. (8-029) 1969033, (8-0176) 753513.
- У арэнду ралет 12 кв.м. у пабудове міні-рынку г.Ашмяны, 80 руб./месяц. УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. Т. (8-029) 7758341.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*
- Сяргей Скаражонак (гр. “Браты славяне”. Канцэрты, карпаратывы, сямейныя ўрачыстасці. Наяўны і безнаяўны разлік. Т. (8-029) 7680471, (8-044) 7770828. E-mail: . ІП Скаражонак С.Р. УНП 691178720. Пасв. №0550270 ад 27.05.15.

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** па РБ да 2-х тон. Т. (8-029) 5520040, (8-029) 9667583. ІП Барткевіч І.п. УНП 691177964. пасв. №0530936 ад 05.02.15.
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абітурыент! Матэматыка, фізіка: падтрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звена. Рэпетытарства: вышэйшая матэматыка, чарчэнне, права. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077.*
- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вагонка, падсцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

**СТО** ООО “Авто-Мотор- Плюс” УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Ремонт ходовой, развал**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**
- **ТО кондиционеров**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

- **Компьютерная диагностика и ремонт электрооборудования** любой сложности;
- **Решение проблем:** клапан ЕГР, катализатор, сажевый фильтр;
- **Проверка и регулировка СО, СН;**
- **Заправка и ремонт кондиционеров;**
- **Замена ГРМ;**
- **Диагностика и ремонт подвески;**
- **Запчасти** в наличии и под заказ.

Т. Велком **(8-044) 741-91-83**, МТС **(8-029) 779-93-27**.
**Шиномонтаж** Т. **(8-044) 533-32-66, (8-029) 769-73-09.**
ОДО «Игл» УНП 690603198

**АККУМУЛЯТОРЫ**
для автомобилей, мотоциклов, источников питания, сигнализаций, лодок, детских машинок

***ПРОДАЖА, ЗАРЯДКА аккумуляторов, ДИАГНОСТИКА с выдачей распечатки и справки***

- моторные и индустриальные масла
- смазки
- реагент AdBlue разливной
- шины
- сварочная проволока
- шпатлёвка
- антифризы
- запчасти к иномаркам

***МАСЛО ПОЛУСИНТЕТИЧЕСКОЕ 10W40 от 35 000 рублей за 1 литр***

Тел. **(0176) 58-12-48, (029) 63-63-166, (033) 323-02-17**
Принимаем «КАРТУ ПАКУПАК»
Возможна **ДОСТАВКА** по региону ООО «Батрикс» УНП 691893243

| Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну: | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# У каго ёсць кот, той мяне зразумее

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі вы ледзь зводзіце канцы з канцамі, то не заводзьце ніякіх жывёл. Бо будуць тады яны хадзіць такія худыя, аблезлыя і ці не кожны, хто убачыць такога брата вашага меншага, захоча падфутболіць яго.**

А калі ўзялі, то хай ён будзе такі, каб усім захацелася мець у сябе такога гадаванца. Калі вам у захапленні кажуць: "Што ў вас за кот!", то быццам бальзам на рану кладуць, так прыемна. І ў душы з'яўляецца шмат цеплыні, пяшчоты, любові.

### Думала, ніякіх катоў, а тут...

У мяне кот з'явіўся неяк зусім нечакана. Патэлефанавала пляменніца і папрасіла, каб на тры тыдні я ўзяла іхняга ката, бо яны едуць адпачываць у Італію. Кот дамашні, сталічны, на вуліцу выводзілі толькі на павадку. Яму было 10 месяцаў.

Я, якая не хацела заводзіць ніякіх катоў ці кошак, чамусьці раптам дала згоду. Праўда, у мужа папыталася, як ён аднясецца, калі ў нас пагасціць тры тыдні кот. Той адразу пагадзіўся, бо сам надта любіць жывёл.

Гаспадары, вярнуўшыся з Італіі, адразу патэлефанавалі, папыталіся, як там іх любімец, і так нясмела мне сказалі: "А можа, хай ён у вас і застаецца". Я чамусьці зноў адмовіць не змагла.

Так у нас з'явіўся яшчэ адзін член сям'і — кот па мянушцы Чарныш. Калі прывезлі яго, то ён адразу прыціснуўся да мяне, пэўна, ужо ведаў, што прыйдзецца разам жыць. Чарныш, Чорны, Чарнушка ўсіх здзіўляў і здзіўляе сваёй прыгажосцю. Да таго ж вялікі разумнік, спрытны, дужы, хітры.

Але спачатку ён быў такі нясмелы, не ведаў, што гэты свет яшчэ і жорсткі, што трэба адваёўваць сваю тэрыторыю. Выпусцілі першы раз на вуліцу без павадка, а тут суседскі кот сядзіць, ён з добрым намерам да яго, а той, як накінецца. Давялося па першым часе самой дапамагаць адбіваць напады нядобразычліўцаў, трымаць дзверы адчыненымі, каб змог уцячы, бо яшчэ і кіпцюры былыя гаспадары падстрыглі — клапаціліся пра мэблю.

Жыве Чарныш у нас ужо пяць гадоў, ва ўсіх бойках атрымаў перамогу і цяпер адчувае сябе каралём. Турбот у мяне з ім хапае.

### Адносіны з суседкамі

Неяк суседка прыходзіць да мяне і кажа, што ад твайго Чарныша чуць інфаркт не быў. І расказвае, як яна пайшла прыцемкам у хлеўчык, каб курэй зачыніць. Толькі зайшла, а зверху ёй нехта раз лапу на плячо. Паварочваецца, нікога не бачна. Я кажа, як зараву. А ён яшчэ як скочыць зверху.

Другі раз ён яе яшчэ крупей выпрашыў палохаць: як толькі зайшла у хлеўчык, ён знянацку зверху скок на плечы і ўцёк.

Яму падабаецца нападаць, асабліва, як прыцямнее. Ідзеш, нешта сваё думаеш, а тут кот, як дасца ў нагі. Сядзіць недзе, каб яго не бачна было, і цікуе, пакуль ісці будзеш.

А вось яшчэ гісторыя. Прыходжу з работы, сядзіць муж з вокам, залітым крывёй. Пытаюся, што зрабілася. Адказвае: "Не паверыш, кот даў па воку. Выпрашыў з ім пагуляць. Я пужаю яго, ён уцякае і хаваецца за крэсла. Я на каленях паўзу, каб глянуць, дзе ён. Схіліўся, а кот лапай, як дасць па воку, то гульня і закончылася".

А вясной парадкавалі гароды. Пасадзіла другая суседка нечага градку, роўненька так рады парабіла, акуратненька ўсё. Гляджу, а наш Чорны як звар'яцелы носіцца ды ўсё кругамі па гэтай градцы. Я ляту, крычу: "Ты што, здурнеў, хіба ж так можна, заб'юць жа, гад ты гэткі!" Гляджу пасля, суседка градку ўжо калкамі заклала, дык ён умудрыўся і пад гэтыя калкі залезці. І зноў перабушаваў усё. Бяда...

Прыйдзе дадому такі весь выкачаўшыся ў зямлі, што не чорны, а шэры ўвесь. І будзе церціся аб цябе, мурлыкаць, такі харошы, што хоць да раны прыкладай. Пасля наесца і заляжа на твой чысты ложак. Ты злуешся на яго, а ўсё роўна любіш і ўсё даруеш.

А суседзі даруюць яму ўсё толькі за тое, што ловіць у іхніх хлеўчыках пацукоў. Ён такі добры паляўнічы, проста граза для мышэй і пацукоў. Праўда, і на птушак палюе. Зноў на яго сваруся.

### Хваробы

Першы раз здарылася бяда з ім яшчэ ў Мінску — зваліўся з восьмага паверха. І нічога. Падзенне з больш высокіх паверхаў для катоў не страшнае, бо пакуль падае, паспявае згрупавацца, і становіцца на лапкі.

А неяк прыязджаю з работы, а кот не можа стаць на лапку. Кульгаў ён, і павезлі мы яго ў ветлячэбніцу. Аказалася нагнаенне, калі чысцілі рану, трымаць давялося ўтраіх. Бедны, ён так роў. У доктара толькі пальчаткі кавалкамі ў розныя бакі разляталіся. Хоць і ўкол абязбольвання ўводзілі. А потым прывозілі дамоў і паўгадзіны насілі на руках, каб павязку адразу не здзёр. Каб лякарства падзейнічала. А цяжкі ж такі, рукі аднімаюцца. Другі раз, як павезлі, дык добра, што доктарка была мажнага целаскладу. Яна як налягла на яго, то вырвацца ён не мог, а я толькі баялася, каб хаця пад яе пышнымі формамі кот не задыхнуўся.

Тры паездкі да доктара нам каштавалі нерваў, мне здавалася, што лепш бы я была хворая.

Хутка пасля гэтага стрэсу і хваробы захварэў наш кот на мікраспорыю. Хвароба страшная не толькі для катоў, сам жа таксама можаш заразіцца. Доктар паглядзела і кажа: Што ўсыпляем!" — "Якое ўсыпляем, — чуць не крычу я, — хіба лячыць нельга!? Доктарка: "Конь ты гэткі, дзе ты ўжо падхапіў заразу, гэта ж кацяняты звычайна хварэюць, а ты..."

Увёўшы кату вакцыну і атрымаўшы кансультацыю па лячэнні, мы з заездам у аптэку паехалі дадому. Узялі ў магазіне пракату медыцынскай тэхнікі кварцавую лямпу і кварцавалі ўсе пакоі, бо споры грыбка могуць жыць у памяшканні да паўтара года. А пасля яшчэ кожны дзень мазалі ката лекамі і тры тыдні пяражывалі, хоць бы ў саміх не з'явіліся лішаі. Але ўсё абышлося, мы здаровыя, здаровы і кот.

Мае сябры, узяўшы маленькае кацяня, заразіліся ад яго самі. Яна месяц не хадзіла на працу, а сын дык тры ў школу. Лячыліся ўсе трое; хоць кошачка была моцна хворая, не ўсыпілі.

### "Апетыт у мяне добры, не скарджуся"

Шмат грошай ідзе на гэтых гадаванцаў. Хваробы, прышчэпкі, корм. Любіць паесці і патрабуе. У пяць раніцы разбудзіць і адразу вядзе да халадзільніка. Прыедзем з работы, а ён першы ўжо сядзіць за сталом і чакае, калі дадуць што-небудзь смачнае, а толькі потым ідзе да сваёй міскі. І хто б ні прыйшоў, адразу сядзіць за сталом, як паўнапраўны член сям'і. Знаёмая кажа: "Можа пасунешся трохі..." А дзе ён табе пасунецца, гэта ж ты прыйшла, ты і пасоўвайся.

Любоў добра паесці вымушае шукаць розныя спосабы здабычы корму. Аднойчы бачу праз акно, як спакойна, няспешна ідзе Чарныш да сабачай будкі ў суседзяў. Сабака, які з ім не ў сяброўскіх адносінах, ад здзіўлення аж разгубіўся ад нечаканасці, а той схапіў нешта з міскі і ходу.

### Містыка

Адзіны выпадак застаўся для мяне незразумелым. Ёсць у мяне ад бацькоў дом на хутары, куды мы час ад часу ездзім. Займеўшы ката, узялі і яго з сабой. Я пайшла ў лес па чарніцы, муж — у грыбы, а кот застаўся дома адзін. Прыходжу, а муж кажа, што кот наш захварэў. Гляджу, а той стаіць і ўвесь трасецца. Што такое? Аказваецца, штосьці яго з-пад печы моцна напужала. Бо кожны раз, каб прайсці да дзвярэй міма печы, ён, азіраючыся на падпечча, проста прасковваў гэту адлегласць. І так кожны раз.

Аднойчы ідзе так асцярожна, заглядвае пад печ, а тут венік на яго як зваліцца, кот як падскочыць ад страху ды як дасца ў мужа. Абое зараўлі. Цяпер мы яго з сабой не бяром, каб не траўмаваць псіхіку.

### Высновы

Без ката жыццё не тое. Але каб завесці яго, трэба наперад ведаць, ці будзеце вы яго любіць і ці будзеце даравіць яму шкодніцтва. Ці захочацца вам уставаць ранымрана, калі так хочацца спаць, каб выпусціць на вуліцу ці даць корм. А перад гэтым залезе да вас у ложак і будзе мурказь і лашчыцца, быццам год з вамі не бачыўся. І гэта ў чатыры-пяць раніцы.

Але калі здарыцца з вамі бяда, кот таксама пашкадуе. Неяк я так моцна плакала, так плакала, што сэрца ката, пэўна, не вытрымала. Ён ускочыў да мяне на ложак і пачаў вадзіць лапкай па шчацэ, шкадаваць. У мяне ад здзіўлення адразу слёзы высахлі. Вось такія яны, бараты нашы меншыя.

Па адносінах да катоў можна зразумець, які чалавек, якая ў яго душа. Бачу на чыгуначным вакзале, як два хлопчыкі гадоў так 10-12 бягуць за катом, якога, пэўна, нехта звёз, бо ён худы, недагледжаны. Дык вось адзін хоча яго пагладзіць, а другі спрабуе наступіць на хвост і ўдарыць нагой.

Чорныя каты — аб'ект забабонаў. Па меркаванні адных — лічацца прадвеснікамі няшчасця (напрыклад, калі чорны кот перабягае дарогу, то гэта прыводзіць да няўдачы ў жыцці). Па меркаванні іншых прымхлівых, чорны кот, які жыве ў вас у доме, прыносіць удачу. З апошнім меркаваннем я на 100% упэўненая.

І яшчэ ўпэўненая, што катоў не любіць толькі той, хто яшчэ не сустрэў свайго.



Фота Марыі БЕРАСНЕВАЙ.

Улюбёнае месца Чарныша. Ну, як можна не любіць вось такога прыгажуна.



Марыя БЕРАСНЕВА
beresneva.maria@gmail.com

# Чаму Валожын быў еўрапейскім цэнтрам іудзейскай адукацыі

*Працяг. Пачатак у №29.*

**ВАЛОЖЫН**

**За сваю больш чым 600-гадовую гісторыю Валожын быў зусім розным па сваім этнічным складзе – літоўскім, польскім, яўрэйскім, беларускім.**

Яўрэям давалася права гандляваць усім, утрымліваць бойні і корчмы, гандляваць чарачным продажам спіртнога. Дазвалялася ўсе спіртныя напоі купляць оптам і прадаваць.

Карацей, рабіць усё, каб палепшыць свой быт без усялякай перашкоды з боку дваровага кіравання, вядома, па законе, аднак з унясеннем вызначанай платы па інструктарыю.

### Воінская павіннасць для яўрэяў

У сярэдзіне 20-х гадоў 19 стагоддзя ў правячых кругах Расійскай імперыі саспеў своеасаблівы план: выправіць яўрэяў шляхам прыцягнення іх да адбывання воінскай павіннасці, якая да таго замянялася грашовым падаткам. Такі ўказ быў падпісаны 26 жніўня 1827 года. Ён адразу ж устанавіў павышаную норму ваеннага прызыву для яўрэяў.

Калі ў хрысціян бралі ў армію па сем рэкрутаў з тысячы чалавек, і раз у два гады, то ў яўрэяў сталі браць па дзесяць рэкрутаў з тысячы чалавек штогод. У адрозненне ад іншых, яўрэяў прызывалі ў армію не з 18, а з 12 гадоў. Малалетніх – ад 12 да 18 – накіроўвалі ў батальёны і ў школы кантаністаў "для падрыхтоўкі да ваеннай службы". Гады знаходжання ў кантаністах не залічвалі ў армейскі тэрмін.

**У пачатку 19 стагоддзя Валожын ужо вядомы як цэнтр гандлю. Тут праводзіліся чатыры кірмашы ў год, штотыднёвыя базары па нядзелях і чацвяргах.**

Па звестках за 1833 год, у Валожыне налічваліся тры лаўкі, дзве карчмы, 20 піцейных дамоў.

### Судовыя разборкі цягнуліся 20 гадоў

У 1840 годзе ўнук Іосіфа, Ян Тышкевіч, забараніў валожынскім яўрэям будаваць у мястэчку новыя і рамантаваць старыя дамы, занятыя пад продаж спіртных напояў.

У 1842 годзе валожынскія яўрэі падалі скаргу на дзеянні новага ўладальніка. Пачалася судовая цяжба, якая доўжылася больш за 20 гадоў. Урэшце справа адносна спрэчкі графа Тышкевіча з яўрэямі мястэчка Валожын паступіла на разгляд Сената ў Санкт-Пецярбург. Яна была на сем тамоў аб'ёмам каля трох тысяч лістоў. Нягледзячы на адмену некаторых палажэнняў дагавора 1809 года, у цэлым яўрэі справу выйгралі.

Калі ў 1847 годзе з 302 двароў мястэчка Валожын 132 двары (44 %) былі яўрэйскімі, то ў 1880 годзе з 3175 жыхароў Валожына 2310 – яўрэі (73 %). Яшчэ па законе 1839 года яўрэі страцілі пасады бургамістраў, гарадскіх кіраўнікоў, членаў слоўных суднаў, ратманаў паліцыі, інш. Яны маглі складаць не больш за трэць ліку членаў дадзеных устаноў.

Фактычна ўсе мяшчане Валожына – яўрэі. Таму расійскія ўлады ў Валожыне не маглі выканаць норму закона 1839 года аб тым, што органы мяшчанскага самакіравання павінны на 2/3 складацца з хрысціян. У 1884 годзе на пасаду мяшчанскага старосты быў выбраны Іцка Брудны, а яго памочнікам – Моўша Клейн.

У 1900 годзе Віленскі губернатар у чарговы раз прасіў вышэйстаячыя інстанцыі зацвердзіць на пасаду мяшчанскага старосты і членаў мяшчанскай управы яўрэяў, бо "...валожынскае мяшчанскае таварыства складаецца выключна з яўрэяў, і мяшчан-хрысціян зусім няма".

### "Часовыя правілы"

У 1882 годзе быў апублікаваны шэраг антыяўрэйскіх прадпісанняў рускага ўрада, якія атрымалі назву "Часовыя правілы". Згодна з імі, яўрэям забаранялася сяліцца ў сельскай мясцовасці, набываць нерухомую маёмасць не ў мястэчках і гарадах і арандаваць зямельныя ўгоддзі, гандляваць у нядзелю і ў хрысціянскія святы. "Часовыя правілы" пазбаўлялі сродкаў існавання значную колькасць яўрэяў, асноўным заняткам якіх быў дробны гандаль у вёсках рысы аседласці.

У 1903 годзе было прынятае рашэнне дазволіць яўрэям жыць у 101 вёсцы, якія сталі фактычна мястэчкам. Да пачатку Першай сусветнай вайны было 300 такіх "вёсак", мястэчак.



Фота забяспечана Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.

**Гандлёвая плошча Валожына. Здымак 1918 года. У правым вугле плошчы двухпавярховы будынак з балконам – сінагога Клейна. Ад гэтага будынка захаваўся толькі першы паверх. Сёння ў ім знаходзіцца магазін "Гасцінец". Фотаздымак з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава.**

**Сусветную вядомасць Валожын набыў дзякуючы ешыботу. І амаль паўтара стагоддзя ён быў цэнтрам еўрапейскай іудзейскай адукацыі.**

Ён стварaўся як бар'ер на шляху распаўсюджвання сярод яўрэйскай моладзі асобага цячэння ў іудаізме – хасідызму.

Хасідызм – гэта вучэнне, якое прапаведавала, што рабінская "вучонасць" і захоўванне шматлікіх рытуальных рэлігійных правілаў у сучасным свеце яўрэям патрэбныя. Рабін Хаім Валожынер у сваім ешыбоце ўстанавіў новы метад выкладання Талмуда, які быў заснаваны Эліяху бен Шлома Залманам, Віленскім Гаонам. Сутнасць яго – аналіз тэксту і разуменне яго звычайнага значэння.

### Заснаванне ешыбота і навучанне ў ім

Паводле падання, ешыбот быў заснаваны па даручэнні Гаона, хоць ён быў створаны ў 1803 годзе, праз некалькі год пасля яго смерці. У гэты час у Вільні ўжо існавалі два ешыботы, аднак рабін Хаім вырашыў заснаваць новы. Магчыма таму, каб выйсці з-пад уплыву віленскай супольнай адміністрацыі, якая пакутавала на ўнутраныя разлады, і самае галоўнае, каб арганізаваць вывучэнне Талмуда ў адпаведнасці са сваімі ўласнымі поглядамі.

Ён быў супраць таго, каб вучні ешыбота жылі ў сем'ях, за межамі ешыбота. Не хацеў дапускаць, каб яны траплялі пад уплыў знешняга асяроддзя. Для гэтага ўзяў на сябе забеспячэнне вучняў сродкамі да існавання. Для збору іх ён звярнуўся да яўрэйскіх суполак. У выніку Валожынскі ешыбот стаў не проста мясцовай навучальнай установай, а прадпрыемствам усёй літоўскай абшчыны (міснагдым) і прататыпам усіх літоўскіх ешыботаў, заснаваных пасля гэтага.

Навучанне ў Валожынскім ешыбоце пачыналася з 10 вучняў, аднак вельмі хутка ён набыў вядомасць сярод яўрэйскага насельніцтва. Яго сталі настолькі высока цаніць, што ваенны губернатар Віленскага краю ў 1812 годзе выдаў рабі Хаіму дакумент для абароны – загад усім вайсковым часцям расійскай арміі абараняць яго і студэнтаў і аказваць ім усялякую дапамогу. Тады там было ўжо 100 вучняў. Да гэтага часу ў Валожыне быў пабудаваны драўляны будынак ешыбота. Асноўныя лекцыі чыталі сам рабі Хаім, яго зяць рабі Гілель, рабін Гродна, а таксама яго сын рабі Іцхак.

Пасля смерці рабі Хаіма ў 1821 яго сын рабі Іцхак стаў кіраўніком ешыбота. Прыкладна ў гэты ж час (1824) расійскія ўлады вырашылі яго зачыніць. Але, нягледзячы на афіцыйны загад, які забараняў яго існаванне, ешыбот працягваў функцыянаваць і пашырацца. Колькасць вучняў узрасла да 200, і былі пабудаваны новыя будынкі.

Валожынскі ешыбот стаў адным з асноўных яўрэйскіх устаноў мікалаеўскай Расіі. Кіраўнік Валожынскага ешыбота разглядаўся ў гэты час расійскімі ўладамі як адзін з лідараў яўрэйства ўсёй Расійскай імперыі.

**Працяг будзе.**

**Уладзімір ПУЧКОЎ,**
**навуковы супрацоўнік Валожынскага раённага краязнаўчага музея.**

**КАЛЯНДАР**

**22 ЛІПЕНЯ**

**100 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Юрэвіча (1916 – 2005), пісьменніка і літаратуразнаўца, заслужанага работніка культуры Беларусі. Па мацярынскай лініі – унук Мікалая Турчановіча, настаўніка, які вучыў Янку Купалу зімой 1897 – 1898 гадоў у Бяларуцкім народным вучылішчы. Пра Купалу ведаў ад родных, найперш ад маці, з маленства. Асабіста знаёмы з Купалам з 1934 года. Сустракаліся найчасцей на Беларускім радыё, дзе працаваў. Бываў у Янкі Купалы дома. Апошняе спатканне адбылося падчас падрыхтоўкі перадачы да 60-годдзя Янкі Купалы на радыёстанцыі "Савецкая Беларусь" за два дні да трагічнай смерці паэта. Сустрэча адбылася ў тым жа гатэлі "Масква", дзе Купала загінуў. Аўтар успамінаў пра Купалу "Жывое Купалава слова" (у зборніку "Такі ён быў", 1975). Аўтар артыкулаў пра жыццё і творчасць Купалы. Пра паасобныя эпізоды з жыцця Купалы напісаў апавяданні "Ясеў куфэрак" і "Нараджэнне верша". Складальнік зборніку выбранай лірыкі Купалы "Гусляр" (на рускай мове, 1972), кніжак-малютак твораў Я.Купалы (1972, 1982).

**22-23 ЛІПЕНЯ**

**110 гадоў** назад (1906) у вёсцы Мікалаеўшчына (Стаўбцоўскі раён) адбыўся нелегальны з'езд групы настаўнікаў Мінскай губерні, у якім удзельнічаў Якуб Колас.

**24 ЛІПЕНЯ**

**105 гадоў** з дня нараджэння Анатоля Астрэйкі (Акіма Пятровіча) (1911 – 1978), беларускага паэта, перакладчыка.

**25 ЛІПЕНЯ**

**80 гадоў** з дня нараджэння Леаніда Левіна (1936 – 2014), заслужанага архітэктара Беларусі. Адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу "Хатынь", за які (у складзе аўтарскага калектыву) быў удастоены Ленінскай прэміі. Аўтар помнікаў Янку Купалу (Мінск, 1972), Якубу Коласу (Мінск, 1972) і многіх іншых.

**2006 год.** У Мінску памёр Янка Брыль, народны пісьменнік. Пахаваны ў Калодзішчах Мінскага раёна.

**27 ЛІПЕНЯ**

**120 гадоў** з дня нараджэння Язэпа Горыда (1896 – 1939), беларускага графіка і жывапісца.

**1906 год.** Нарадзіўся Ежы Гедройц (Мінск), грамадскі дзеяч, рэдактар польскага часопіса "Культура", які актыўна спрыяў развіццю беларускай навукі і культуры.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Маладзечанская суполка ананімных алкаголікаў адзначыла 10-годдзе

МАЛАДЗЕЧНА

Павіншаваць адзін аднаго з цвярозасцю і падзяліцца, як суполка змяніла жыццё, сабраліся людзі з розных гарадоў Беларусі ў суботу, 16 ліпеня, у музкаледжы.

Сустрэча пачалася з традыцыйнай для фармаў груп падтрымкі "лічылкі". Вядоўцы запрашалі ўстаць спачатку тых, хто цвярозы 25 год і больш, 20 год, 19 і так па змяншэнні. Калі хтосьці з залы трапляў у названую катэгорыю, то ўставаў, а астатнія падтрымлівалі яго прагрэс апладысментамі. Знаходзіліся прадстаўнікі ў многіх групах – і ў каго больш за 25 год цвярозасці, і ў каго пакуль некалькі тыдняў і нават дзён.

Пасля прывіталі ўдзельнікаў паралельных груп падтрымкі – ананімны наркаманаў, сваякоў і блізкіх алкаголікаў, дарослых дзяцей алкаголікаў.

Першымі на сцэну запрасілі навічкоў. Сталыя ўдзельнікі ананімных алкаголікаў (АА) адзначылі, што супольнасць дзякуючы навічкам падымаецца як дражджавое цеста.

Некаторыя думаюць, што ў АА пазбаўляюцца ад хваробы ў адно імгненне, атрымаўшы нейкія сакрэтныя лекі. Удзельнікі групы падтрымкі іранізуюць над гэтым, уручаючы пачаткоўцам "таблетку ад алкагалізму" – адмысловыя жэтоны:

– Калі захочацца піць, то чытайце малітву, што размешчаная на жэтоне, – тлумачыць навічкам сябра суполкі з вялікім стажам. – Ну, а калі зусім ужо ніяк нельга стрымацца, кладзіце пад язык і рассмоктвайце. Як толькі рассмакталі – усё, знача, можна піць.

Навічкоў абдымаюць вядоўцы, і чуецца, як адзін з новенькіх прамаўляе: "Я не хачу згубіць усё", а ў адказ чуе: "У цябе атрымаецца".

На сустрэчу запрасілі святароў. Айцец **Віталь** адзначыў, што 12 крокаў праграмы АА ўяўляюць сабой хрысціянскі шлях барацьбы з жарсцямі. Айцец **Сяргей** у сваім выступленні падкрэсліў, што без учынкаў вера мёртвая.

Маладзечанская суполка ананімных алкаголікаў "Залатая жыла" праводзіла свой першы форум. З юбілеем віншавалі ўдзельнікі суполак з іншых мясцін краіны. З нашага рэгіёна акрамя гаспадароў маладзечанцаў былі прадстаўнікі з Астраўца, Смаргоні, Вілейкі і Валожына. Найчасцей дарылі кнігі на тэму цвярозасці ці рэчы, што спатрэбяцца для правядзення сходаў – чай, каву.

### Што гаварылі выступоўцы

– АА – гэта тое, дзякуючы чаму я сёння жывы і цвярозы.

– У групу мяне цягнула знаёмая з маладзечанскай групы. Я думала, што гэта ёй трэба. Ну, думаю, раз ёй так трэба, добра, пахаджу. І толькі пасля я зразумела, наколькі гэта трэба мне.

– Знікла пачуццё страху.

– Сёння я быў упершыню ў Маладзечне, прайшоўся па горадзе – хапае кантынгенту такога, каму варта было б стаць вашымі навічкамі.

– Часта мы спрачаліся, хто каго парадзіў – алкаголік нас ці мы алкаголікаў – выступала ўдзельніца групы падтрымкі для блізкіх, хворых на алкагалізм. – Але гэта спрэчка нагадвае спрэчку пра тое, што першае: яйка ці курыца. Цяжка зразумець, што нам таксама трэба працаваць па праграме. Раней я думала, што раз я цвярозая, то магу вырашаць, як жыць маім алкаголікам. Цяжка асэнсаваць, што я павінна дазволіць ім распараджацца сваім жыццём і працаваць над сабой.

– Тут напісаная праўда, – сцісла пракаментаваў свой падарунак у выглядзе кнігі пра шлях да цвярозасці адзін з гасцей.

Некаторыя выступоўцы падрабязна распавядалі пра тое, што не разумеюць, што за цуд адбываецца ў групе падтрымкі, але дастаткова проста пастаянна яе наведваць, каб заставацца цвярозым.

Яны адлічваюць кожны дзень сваёй перамогі над алкагалізмам. Кожны з удзельнікаў АА як дзень нараджэння ведае дату, калі апошні раз піў. І калі хтосьці зрываецца, сябры суполкі не асуджаюць, яны гэта разумеюць. І калі хтосьці трымаецца ад аднаго юбілею да наступнага, то атрымлівае шчырыя віншаванні і моцную падтрымку ісці далей роўнай дарогай жыцця.

Група падтрымкі "Залатая жыла" праводзіць сходы ў капліцы святога Казіміра па Вялікім Гасцінцы. Па аўторках, чацвяргах і пятніцах сходы праходзяць а 19 гадзіне, па нядзелях – у 13:30. Вы можаце задаваць пытанні праз электронную пошту ці звычайную пошту: Маладзечна, 222306, а/с 9.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Даведка "РГ". 12 крокаў – праграма, якая ляжыць у аснове працы над сабой у групе падтрымкі "Ананімныя алкаголікі".



Фота забяспечанае Аленай МАЧЭЛЬ.

Падчас паходу па коласаўскіх мясцінах.

# "Вандроўнікі" шляхам Якуба Коласа

ВІЛЕЙКА

**Турысты… Людзі, якія ідуць па свеце. Ім цікава ўсё, што навокал: прыгажосць прыроды, архітэктурныя помнікі, незвычайныя сустрэчы і, канешне, легенды, паданні, гісторыі, гісторыя краю.**

Ужо стала традыцыяй, што вучні гімназіі №1 "Логас" кожнае лета адпраўляюцца ў вандроўку па родным краі як клуб "Вандроўнікі". Нарач, Глыбокае, Парыж – наш, беларускі, – цэнтр Еўропы возера Шо, возера Пліса… Гэта толькі невялікі пералік тых месцаў, дзе мы ўжо пабывалі. Сёлета "Вандроўнікі" адправіліся на Стоўбцаўшчыну. "Шляхам Якуба Коласа" – так называўся наш маршрут. А паглядзець і наведаць там было што!

Часам шкадую, што няма ў нас даведніка па кожным раёне, дзе былі б сцісла апісаныя ўсе населеныя пункты, помнікі архітэктуры, знакамітыя людзі і гэтак далей. Адгарнуў, убачыў, што самае цікавае ў тым ці іншым месцы, – і паехаў глядзець. Таму складаць маршрут прыйшлося самой.

І вось Стоўбцы! Здалёк відаць царква святой Ганны. Высока на гары, у цэнтры горада, размясціўся помнік архітэктуры 1825 года. Блакітны колер заўважаеш адразу. Уражаныя, мы рухаліся па горадзе і любаваліся вузенькімі вуліцамі, плошчамі. Мы ішлі ў Акінчыцы, дзе 3 лістапада 1882 года нарадзіўся класік беларускай літаратуры Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч). Ветліва расчынілі нам дзверы дом-музей, дзе сярод экспанатаў – аналагі рэчаў, якімі карысталася сям'я Міцкевічаў, прадметы сялянскага побыту канца 19 стагоддзя.

А ўдалечыні віднеецца Нёман – бацька-Нёман. Размясціліся на начоўку.

**Уразіла тое, што рака сёння не магутная, а мелкая, віецца між зараснікаў, утвараючы шматлікія лукі.**

А далей Альбуць, дзе знаходзіцца музей кнігі Якуба Коласа "Новая зямля", і Смольня! Менавіта тут, у Смольні, адбылася сустрэча класікаў Якуба Коласа і Янкі Купалы ў 1912 годзе. Тут мы даведаліся, што 9 ліпеня адзначаўся юбілей Першага настаўніцкага з'езда, на які летам 1906 года прыехалі настаўнікі з розных рэгіёнаў Паўночна-Заходняга краю. На з'ездзе абмяркоўвалася далучэнне да Усерасійскага з'езда настаўнікаў. Адзінаццаць удзельнікаў з'езда былі арыштаваныя, у тым ліку і Якуб Колас.

А мы зноў на беразе Нёмана. Разбілі лагер, зварылі на кастры абед, а потым спявалі турыстычныя песні ля вогнішча, як жа без іх у паходзе!

*Как отблеск от заката, костер меж сосен пляшет,*

*Ты что грустишь, бродяга, ану-ка улыбнись.*

*И кто-то очень близкий тебе тихонько скажет:*

*Как здорово, что все мы здесь сегодня собрались.*

*И кто-то очень близкий тебе тихонько скажет:*

*Как здорово, что все мы здесь сегодня собрались.*

Пайшлі далей. Мікалаеўшчына. Тут вялікі пісьменнік наведваў школу, тут жылі яго сябры і родныя.

Перайшлі мост праз Нёман… Кнотаўшчына… Новы Свержань. Сюды, у Новы Свержань, часта прыходзіў Якуб Колас у краму ці карчму. Нават Янку Купалу туды звадзіў перад ад'ездам пасля першай сустрэчы ў 1912 годзе. Здалёк віднеліся купалы царквы Успення Прасвятой Багародзіцы 16 стагоддзя. Шкада, што цяпер яна на рэстаўрацыі. На адной плошчы з царквою, як і ў Вілейцы, стаіць і касцёл Святых Пятра і Паўла 16 стагоддзя. Побач вадзяны млын 19 стагоддзя – сёння аднаўлены і ўваходзіць у межы сядзібы для адпачынку.

Потым наш шлях ішоў на Стары Свержань. Атрад трохі расцягнуўся. Цяжкавата ісці з нагружанымі заплечнікамі. Прыпынкі на адпачынак аб'ядноўваюць усіх. І зноў песні, песні, песні… Старасвержанская царква Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы пабудаваная на месцы страчанага ў 1989 годзе храма другой паловы 18 стагоддзя. Каля царквы размешчаны валун, на якім надпіс "Старая Свержань, 1482" – дата першай згадкі мястэчка ў летапісах.

Што для турыста асабліва важна ў дарозе? Надвор'е, вада і лес… Усё гэта як бы знікла. Калі раней надвор'е нам спрыяла, Нёман даваў ваду, а лес быў побач, то дарога на Стары Свержань паказала адваротнае. На карце адно, на самой справе другое. Таму вырашылі вярнуцца ў Новы Свержань. І апошнія дні правялі на беразе Нёмана, недалёка ад летніка "Цэрамок".

Каб пазнаць душу паэта, трэба пабываць на яго радзіме. Наведванне коласаўскіх мясцін дапамагло нам глыбей зразумець і асэнсаваць творчасць песняра, ва ўсёй паўнаце сфарміраваць уяўленне пра Якуба Коласа як паэта і чалавека.

**Алена МАЧЭЛЬ,**
**кіраўнік паходу.**

ТЭМА НУМАРА

# Слімакі, папса на сняданак і жыццё на дзве краіны

## А як выглядала першае жыллё вашай сям'і?

**Кожнаму з нас хацелася б, каб адразу пасля шлюбу наша жыццё было ўладкаванае, як у кіно. Свой дом ці хаця б кватэра, цудоўныя суседзі, добры рамонт. Але рэальнасць уносіць свае карэктывы. Як жа насамрэч выглядае жыццё маладых пар, якія толькі пачынаюць сямейны шлях? Сваімі гісторыямі з "РГ" падзяліліся тры мясцовыя пары.**

### Каця з Маладзечна (26) і Паша з Мінска (29)

Пасля вяселля мы пераехалі жыць да мужа ў Мінск, таму што Паша хацеў працаваць у сталіцы. Ён не хоча ездзіць з другога горада. Мой горад, Маладзечна, ён увогуле не разглядае як месца жыхарства. Таму мы жывём разам з яго мамай у трохпакаёвай кватэры, дзе займаем адзін пакой.

Не скажу, што жыць з ёй складана. Проста напружвае яе прысутнасць. Сяброўскіх адносінаў няма, але і варожых таксама, проста стасункі як у інтэрнаце: кожны па чарзе ходзіць на кухню, есць і сыходзіць. З кантактаў "добры дзень – да пабачэння" і пара слоў пра тое, дзе што ляжыць.

У халадзільніку ежа ў кожнага свая. Гатуем асобна. Бывае, што і не бачымся цэлымі днямі. І гэта напружвае, бо ты ведаеш, што чалавек ёсць, а быццам яго і няма…

Цяжка дзвюм гаспадыням на адной кухні. Свякруха адразу сказала, што ў нас надта шмат рэчаў, а кухня разлічаная на адну сям'ю. Дазволіла нам паставіць мультыварку і на тым дзякуй! Рэчы і прадукты, якімі я карыстаюся, стаяць на самых высокіх паліцах. Гэта нязручна. Але я не вінавачу ў гэтым свякруху.

Муж мяне не чуе, я шмат разоў казала яму наняць кватэру, заробак дазваляе. Але ён адмаўляецца траціць грошы, як ён кажа, на вецер. Для мяне гэта не так, я была б больш свабоднай і шчаслівай. Але ён гатовы ахвяраваць і сваім, і маім псіхалагічным станам.

Я не магу пакінуць брудную талерку і пайсці да дзіцяці, бо ведаю, што свякрусе мала месца на кухні. Раздражнае, што я павінна рабіць усё тады, калі мне нязручна.

Зранку, калі свякруха снедае, яна ўключае магнітафон, і на ўсю моц! Мы з мужам не любім папсу і магнітафоны. Але мы не на сваёй тэрыторыі.

Свякруха часам, – калі мяне няма дома, цікава, чаму менавіта тады? – кажа мужу, што ў кватэры брудна. І трэба прыбраць. Гэта злуе: мы і самі ведаем і прыбіраемся. Я згодная, я не суперчысцёха, але і не свіння! Злуе таксама, што трэба "трэсціся" над новым рамонтам, бо, паводле свякрухі, ён павінны захавацца да канца яе дзён. Нельга аб сцяну абаперціся – яна нават не падазрае, што дзеці любяць маляваць сцены і тым больш маляваць!

Тое, што муж усё ж у сябе, адчуваецца. У мяне дома ён больш стрыманы. Але і ў сябе не можа надта расслабіцца. Нават калі яму ў выхадны захочацца паспаць да 12, мама можа зайсці і запытацца – сынок, ты не захварэў? Са здароўем увогуле асобная тэма. Яна з ім носіцца як невядома хто, і калі сын прыхварэў, то дваццаць разоў на дзень запытаецца пра яго стан.

Планы на жыллё ў нас з мужам розныя. Ён марыць, што нерэальна пабудаваць сваё і збіраецца перабудаваць дачу, каб жыць там. А я веру і ведаю, што у мяне будзе свой дом! Я яго куплю або пабудую!

Увогуле, я не бачу плюсаў ад жыцця са свякрухай. Развіваць у сабе і нашых стасунках цярплівасць і вынослівасць, магчыма, у гэтым плюс?

### Вераніка з Маладзечна (26) і Юра з Капыля (28)

Пасля ўніверсітэта размеркаванне занесла нас у Слуцк. Там мы і пражылі амаль год пасля вяселля.

Мы наймалі дом. Вялікі: каля 40 квадратаў, з прыбудовамі, садам і гаражом. Плацілі за яго вельмі танна – 60 даляраў у месяц. Палову сумы выплацілі адразу на год наперад, яшчэ палова, паводле дамовы з гаспадыняй, пайшла на новыя вокны.

Дом быў стары, 1962 года пабудовы, але цагляны. Цэнтральнай каналізацыі не было, а свая вельмі хутка забівалася. Таму, каб не выпампоўваць яе кожны тыдзень, мы стараліся не выліваць ваду праз каналізацыю. Пачысціў зубы, памыў рукі ці посуд – ідзеш выліваць брудную ваду ў двор. Вось так і бегалі.

У ванне таксама: нальеш, памыешся, пасля вычэрпваеш. Я нават схуднела за той год, бо пастаянна з вадой бегала.

Таксама па доме мышкі скакалі. Ад атруты яны ўвогуле дурныя рабіліся, вылазілі, так што Юра адну нават тапкам прыбіў. Пацука толькі аднойчы бачылі.

І слімакоў шмат было, такіх, што без ракавіны. Падлога была халодная, вільготнасць высокая, таму яны вельмі добра сябе адчувалі. Асабліва ўначы актыўна поўзалі. Часам зранку заходзіш у ванную, а там на люстэрку слімак – прывітанне! Нават зімой яны ў нас жылі, на цяпло спаўзаліся, разумныя! Яшчэ аднойчы і жаба да нас забралася.

У кухні ўсё было ў парадку – газ, свой кацёл. Тэмпературу сам кантралюеш, таму ўзімку было цёпла. Была і печка ў рабочым стане, але мы так яе ні разу і не запалілі.

Вядома, мы разумелі, што жыллё не наша, што мы тут толькі часова. Але ўсё роўна ўкладвалі грошы і шмат рамантавалі, каб больш камфортна сябе адчуваць. Рамантавалі падлогу, каб жабы не маглі пралезці. Увогуле сапраўднымі будаўнікамі сталі! Я цяпер і шпакляваць умею, і шпалеры клеіць. Яшчэ ў нас агародзік быў з рознай зялянінай.

Агулам дом быў выдатны: спальня, зала, малы пакой, у якім Юра зрабіў майстэрню, сталовая і кухня. А іншыя складанасці мы хутка перасталі заўважаць.

Важна ў такіх сітуацыях не чапляцца да дробязяў, а проста жыць разам. Як кажуць, з мілым рай і ў шалашы, і я цалкам з гэтым згодная. Для нас гэта была прыгода, перашкода, якую нам трэба разам пераадолець.

Я лічу, што так лепей. Калі маладыя атрымліваюць у падарунак сваё жыллё, то прыязджаюць на ўсё гатовае і расслабляюцца. І так усё ў парадку, чаго напружвацца?

Цяпер, пасля нараджэння сына, мы жывём у Маладзечне. Тут бы хацелі і застацца, назбіраць грошай на сваё жыллё. Раней падавалася, што мы гатовыя жыць хоць на хутары. Цяпер думаем пра дзяцей: трэба, каб была школа, розныя гурткі і секцыі. Нейкая цывілізацыя, карацей. Таму застанёмся ў Маладзечне, у якім-небудзь ціхім раёне.

### Віталь з Нявіжа (27) і Ганна з Маладзечна (27)

Пасля размеркавання я застаўся ў родным горадзе. Мы з Ганнай маглі б жыць у кватэры маіх бацькоў, там тры пакоі. Тым больш, у нас з бацькамі адносіны былі вельмі добрыя.

Але знялі недарагую аднапакаёўку – практычна пустую, нават гасцей у першыя дні садзілі на тумбачку, бо крэслаў не хапала. Аднак літаральна праз месяц памерла мая мама. Пасля ўсіх пахавальных клопатаў тата перабраўся да сваёй маці, маёй бабулі, а кватэру пакінуў нам. І сталі мы там жыць, вучыцца весці гаспадарку, рабіць рамонты, прымаць турыстаў па каўчсёрфінгу…

Мне цяжка было мяняць нешта ў кватэры, дзе я вырас. На ўсе замахі Ганны на рамонт, змену мэблі ці нават не перастаноўку я адразу глядзеў ледзь не як на здраду мінуламу, успамінам. Але пасля зразумеў, што ўспаміны ўспамінамі, але трэбу будаваць сваё жыццё. Найманае жыллё ў гэтым плане іншае – што хочаш, тое і рабі, адказнасць меншая.

**У сваёй хаце мы змаглі прымаць каўчсёрфераў – падарожнікаў з усяго свету. Месца хапала, дык чаму б тады не пабыць шляхціцам Завальням, прымаючы цікавых гасцей? Былі ў гэтым і пэўныя цяжкасці. Бо для Ганны "мой дом – мая крэпасць", а для мяне – "мой дом – мой інтэрнат". Але ішлі адзін аднаму на саступкі. Усяго мы прынялі 26 падарожнікаў.**

Увогуле па сваіх назіраннях магу сказаць, што хлопцам усё роўна, дзе жыць, яны могуць доўга бадзяцца. Дзяўчаты ж моцна хочуць мець сваё гняздо, што можа прыводзіць да нервознасці і канфліктаў. Але калі адносіны моцныя, то цяжкасці толькі ўмацоўваюць. Хаця, лепей без іх.

Але нішто не вечнае: цяпер я жыву ў вялікім пустым доме ў Германіі, паколькі паступіў на дактарнатуру аднаго з універсітэтаў. Пражыў тут ужо паўгода, але за гэты час двойчы прыязджаў – на дзесяць дзён і на месяц. Ганна цяпер жыве ў аднапакаёўцы на ўскрайку Маладзечна, з бацькамі і нашай двухмесячнай дачкой.

У Германіі я мінімум на тры гады, але спадзяюся неўзабаве пераадолець бюракратычныя перашкоды і прывезці жонку з нашым дзіцяткам да сябе – на новую наймананую кватэру.

Жыццё на дзве краіны складанае. Ёсць у ім і свае плюсы. Як бы гэта дыпламатычна сфармуляваць?.. Жонка стала вельмі ласкавая, хоць да раны прыкладвай. За гэтыя паўгода раздзельнага жыцця толькі раз крыху пасварыліся.

Увогуле Ганна казала, што многае пераасэнсавала, што праўда, жаночае шчасце ў тым, каб "быў бы мілы побач". Хоць ён і тормаз, і гультай, і рукі ў яго з дупы.

А я вельмі сумую, бо прывык, што найлепшы сябар – гэта жонка, якая заўсёды побач. Вядома, і ў бытавым плане з жонкай зручней. Але слава інтэрнэту – ён змякчае ўсе цяжкія моманты.

Запісала Аляксандра ПАРАХНЯ.

**Падзяліцеся сваімі гісторыямі, даслаўшы іх на адрас regionnews@rh.by.**



Фота ecomammy.com.

Якая ж маладая пара не марыць адразу пасля вяселля засяліцца ва ўласны вялікі і прыгожы дом. Але ў жыцці да гэтай мары часам трэба доўга ісці.

**Даведка "РГ".** Каўчсёрфінг – адна з найбуйнейшых гасцявых сетак. Створаная для садзейнічання глабалізацыі. Удзельнікі сеткі бясплатна дапамагаюць адзін аднаму ў тым ліку з начлегам падчас вандровак і ладзяць сумесныя падарожжы.

НАВІНЫ

## “Смаргонь” перамагла “Ліду”

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе ФК “Смаргонь” 16 ліпеня гуляў у гасцях супраць “Ліды”. Смаргонцы выйгралі 3:0.

Усе галы гледачы пабачылі ў другім тайме. Адразу пенальці рэалізаваў **Сяргей Крот** – гэта ўжо яго дзявяты гол у сезоне. Потым дублем адзначыўся **Віталь Ганіч**.

“Ашмяны” ў гэтым туры таксама праводзілі матч у гасцях. Яны 16 ліпеня саступілі светлагорскаму “Хіміку” 1:2. Вырашальны гол гаспадары забілі толькі на 84-й хвіліне.

“Смаргонь” займае ў турнірнай табліцы 11-е месца, “Ашмяны” па-ранейшаму ідуць апошнімі.

## Віляйчане зноў прайгралі ў гасцях

ВІЛЕЙКА

Зноў гасцявы матч чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе прынёс “Віліі” з Вілейкі паражэнне. Віляйчане 17 ліпеня прайгралі аднаму з лідараў, “Коласу” з Чэрвеня, з лікам 0:3.

Пасля гэтага тура “Вілія” засталася на шостым месцы.

## Віляйчане лепшыя сярод вальшчыкаў лесу

ВІЛЕЙКА

У Слуцкім лягсасе 12 ліпеня прайшлі абласныя спаборніцтвы вальшчыкаў лесу “Лесаруб-2016”, паведамляе Вілейскі доследны лягсас.

Удзельнічалі ў іх каманды лягсасаў Міншчыны. У кожнай было па сем чалавек.

Па выніках усіх відаў спаборніцтваў каманда Вілейскага доследнага лягсаса заняла першае месца.

## “Сваткі” грамяць мядзяльчан

МЯДЗЕЛ

У чэмпіянаце дваровай лігі Мядзельскага раёна 16 ліпеня ФК “Юніён Нарач” прымаў каманду са Свіры.

– Лік у матчы адкрылі нарачанцы, – расказаў капітан ФК “Юніён Нарач” **Аляксей Раброў**. – Вельмі хутка “Юніён” забіў другі гол. Свірскія футбалісты ўсімі сіламі пайшлі наперад. І да перапынку здолелі зраўняць лік, а ў другой палове сустрэчы хутка выйшлі наперад. Аднак **Дзмітры Малафей** забіў двойчы, і нарачанцы здолелі вырваць важную перамогу. Усяго ў матчы Дзмітры забіў тры галы.

Сваткаўцы дома 17 ліпеня разграмілі “Юнацтва” з Мядзела: 8:1. На перапынак каманды пайшлі пры ліку 3:1. А ў другім тайме ў вароты мядзяльчан уляцела яшчэ пяць галоў.

**Аддзел інфармацыі.**

## “Маладзечна-ДЮСШ-4” перамагае Жыткавічы з непрыстойным лікам – 0:7.

МАЛАДЗЕЧНА

Гульня, якая дазволіла маладзечанцам падняцца на пяты радок турнірнай табліцы, адбылася ў суботу, 16 ліпеня.

Футбольны клуб “ЮА-буд-Жыткавічы” за 10 тураў чэмпіянату не перамог ні ў адной гульні. І цяпер былі шчодрымі, як ніколі, прапусціўшы ў свае вароты ажно сем мячоў.

**Валеры Аляксандраў** на сайце infootball.by патлумачыў, чаму футбольны клуб з Жыткавічаў апынуўся ў такім становішчы.

– Перад гульнёй з камандай з Маладзечна ў распараджэнні галоўнага трэнера “ЮА-буд-Жыткавічы” **Андрэя Мінчука** было толькі 13 гульцоў і ні аднаго варатара.

Трэба адзначыць, што варатары ў камандзе – самае балючае месца. Імі ўжо “папрацавалі” шэсць футбалістаў.

Варатар **Мікалай Дарафей** правёў за каманду пяць матчаў і прапусціў 16 мячоў. Пяцёра іншых “шчасліўчыкаў” увогуле не варатары.

У матчы супраць Маладзечна ў вароты паставілі абаронцу каманды **Станіслава Захарчанку**. Агулам, у графе “прапушчаныя мячы” ў Жыткавічаў і стаіць лічба 44.

Галы ў вароты “ЮА-буд-Жыткавічы” забівалі: **Павел Майсяёнак**, на 10 хвіліне матча робіць лік – 0:1, **Аляксандр Альховік** на 29 хвіліне павялічвае разрыў – 0:2, **Мікіта Харко**, 39 хвіліна – 0: 3.

У другім тайме дубль аформіў Павел Майсяёнак на 61 хвіліне – 0:4. Затым на 64 хвіліне вызначыўся **Ігар Талькоўскі** – 0:5. Свой дубль аформіў і Аляксандр Альховік на 80 хвіліне – 0:6. І фінальную кропку за пяць хвілін да канца матча паставіў **Ігар Нарожнік** – 0:7.

Самы забіўны з гульцоў “Маладзечна-ДЮСШ-4” **Ігар Талькоўскі** з васьмю забітымі мячамі падняўся на другі радок спісу лепшых бамбардзіраў.

Наступную гульню маладзечанцы згуляюць на дамашнім стадыёне 23 ліпеня супраць каманды з Рагачова.

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечанае Вольгай ЦІХАНОВІЧ.

Удзельнікі спартыўнага свята з шасці раёнаў Мінскай вобласці.

# За званне самай спартыўнай сям’і змагаліся ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**Абласны фестываль здаровага ладу жыцця “Мама, тата, я – здаровая сям’я” прайшоў у мінулыя выхадныя ў Маладзечне.**

У фестывалі ўзялі ўдзел восем сем’яў з шасці раёнаў Мінскай вобласці.

У Маладзечна з’ехаліся спартыўныя сем’і з Мінскага, Крупскага, Дзяржынскага, Уздзенскага, Чэрвеньскага і ўласна Маладзечанскага раёнаў.

Маладзечна прадстаўлялі дзве сям’і – **Андрэя Ляхновіча** і **Паўла Мазуры**.

Сем’і праходзілі паласу перашкодаў, спаборнічалі ў падцягванні, скачках у даўжыню і стральбе з пнеўматычнага ружжа.

Але першым конкурсам было заданне ярка і вобразна прадставіць сваю сям’ю ў візітоўцы.

Спаборніцтвы пачаліся ў пятніцу. У першы дзень сем’і павінны былі прайсці паласу перашкодаў. Сям’я Андрэя Ляхновіча заняла ў гэтым этапе пятае месца, сям’я Паўла Мазуры – другое.

У суботу сем’і спаборнічалі ў падцягванні, скачках у даўжыню. Дзеці спаборнічалі паміж сабой у чаўночным бегу.

Да вынікаў папярэдняга дня дадаліся пятае месца ў сям’і Ляхновічаў за падцягванне, другое месца за скачкі ў даўжыню і шостае месца за чаўночны бег.

Сям’я Паўла Мазуры ў падцягванні паказала трэцяе месца, у скачках у даўжыню першы вынік, у чаўночным бегу **Уладзіслаў Мазура**, малодшы ўдзельнік каманды, стаў трэцім.

**Трэці дзень, і спаборніцтвы ў стральбе і лёгкай атлетыцы ўрэшце выявілі пераможцу па суме балаў. Ім стала сям’я Паўла Мазуры. Яна прадставіць вобласць на рэспубліканскіх спаборніцтвах, якія пройдуць 19-21 жніўня ў Гродне.**

**Наталля ТУР.**

# Каляндар гульняў каманды “Маладзечна-ДЮСШ-4” у другой лізе чэмпіянату Беларусі па футболе

МАЛАДЗЕЧНА

**Па шматлікіх просьбах нашых чытачоў і заўзятараў каманды “Маладзечна-ДЮСШ-4” друкуем каляндар гульняў, якія камандзе давядзецца згуляць у футбольным сезоне.**

10 з 16 гульняў, якія засталася згуляць у гэтым сезоне, маладзечанцы згуляюць на сваім полі.

А бліжэйшую гульню супрацьстаяць камандзе **Аляксандра Гармазы** будзе футбольны клуб з Рагачова.




На афішы да гульні з Рагачовам – футбаліст каманды “Маладзечна-ДЮСШ-4“ Антон Галгоўскі.

У табліцы тлустым шрыфтам пазначаны дамашнія матчы каманды

| | | | Дата гульні |
|---|---|---|---|
| 1. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | Рагачоў МК | 23 ліпеня |
| 2. | Клецк | “Маладзечна-ДЮСШ-4” | 30 ліпеня |
| 3. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | “Нёман-агра” Стоўбцы | 7 жніўня |
| 4. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | ДСК ДЮСШ Гомель | 13 жніўня |
| 5. | “Хваля” Пінск | “Маладзечна-ДЮСШ 4” | 21 жніўня |
| 6. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | “Вертыкаль” Калінкавічы | 27 жніўня |
| 7. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | “Мантажнік” Мазыр | 3 верасня |
| 8. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | Асіповічы | 11 верасня |
| 9. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | ДСК Гомель | 17 верасня |
| 10. | “Забудова” Чысць | “Маладзечна-ДЮСШ-4” | 24 верасня |
| 11. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | “Вікторыя” Мар’іна Горка | 1 кастрычніка |
| 12. | “Тарпеда” Магілёў | “Маладзечна-ДЮСШ-4” | 8 кастрычніка |
| 13. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | “ЮА-буд-Жыткавічы” | 15 кастрычніка |
| 14. | Рагачоў МК | “Маладзечна-ДЮСШ-4” | 22 кастрычніка |
| 15. | **“Маладзечна-ДЮСШ-4”** | Клецк | 29 кастрычніка |
| 16. | “Нёман-агра” Стоўбцы | “Маладзечна-ДЮСШ-4” | 5 лістапада |




# Распачынаем сезон закатак

**Неяк у размове з гаспадыняй невялікай крамы жаночага адзення ў Маладзечне бізнес-лэдзі Таццянай Маргоўкай зайшла гаворка пра лецішча і пра ўраджай агуркоў-памідораў.**


Фота с-fora.com.

Яна кажа, што нарыхтоўкі стаўлю на зіму, але люблю, каб рэцэпты былі лёгкія ў прыгатаванні, а агурочкі і памідоры атрымоўваліся, што называецца, пальчыкі абліжаш. І прапанавала мне рэцэпты, сказала, што я не пашкадую.

### Агурочкі па-балгарску

*Вазьміце з разліку на адзін стэрылізаваны літровы слоік. На дно пакладзіце 3-4 гарошыны чорнага перцу і столькі ж духмянага, 2 лаўровыя лісты. Дадайце яшчэ некалькі кружкоў морквы і цыбулі. Малымі агурочкамі запоўніце ўвесь слоік.*

Пакладзіце прама ў слоік 1 ст. лыжку солі без верху, 3 ч. лыжкі цукру, 40 мл 9% воцату. Даліце халоднай вадой, можна нават з-пад крана, накрыйце стэрылізаванымі накрыўкамі і пастаўце стэрылізаваць. Як вада закіпіць, 4 хвіліны адлічвайце. Пасля дастаньце і закруціце, пераверніце ўверх дном і ўхутайце.

### Памідоры малахітавыя

*Тры літровыя слоікі запоўніце зялёнымі памідорамі, вялікія рэжце на часткі. Дадайце адразу ў слоік 3-5 зубкоў часнаку, перац чорны і духмяны гарошкам, лаўровы ліст. Заліце марынадам.*

Марынад: 1 л вады, 5 ч. лыжак з невялікай горкай солі, 7,5 ст. лыжак цукру, 60 г воцату 9%. Закіпяціць.

Заліце марынадам памідоры, стэрылізуйце 5 хвілін.

**Проста МАРЫЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | | 2 | 1 | | 3 |
| | | | | | | | | |
| | 5 | 1 | | | 4 | 9 | 8 | 2 |
| 1 | 6 | | 5 | | | | | |
| | 3 | | 2 | | 9 | | 6 | |
| | | | | | 6 | | 9 | 5 |
| 5 | 9 | 6 | 7 | | | 8 | 2 | |
| | | | | | | | | |
| 3 | | 2 | 9 | | | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.




Фота www.youtube.com.

Кадр з фільма "Да сустрэчы з табой".

# Мы не можам змяніць людзей. Мы можам толькі любіць іх

**КІНО ВІЛЕЙКІ**

Кінатэатр "Мір" распачынае пракат адных з самых чаканых прэм'ер гэтага года.

Для сямей з дзецьмі, якія хочуць расслабіцца і адчуць сябе ў светлай і зусім незнаёмай казцы, варта наведаць фэнтэзі Сціvена Спілберга "**Вялікі і добры велікан**".

Гэта гісторыя сяброўства, незвычайнасці і дзіцячай фантазіі, афармленая ў неверагодна вытанчаную музыку і адметную графіку.

Калі вам не пашанцавала з адпачынкам, надвор'е зусім не нагадвае яскравае лета, а блытаніна з грашыма выклікае нервовы цік – вам самы час загарнуць нервовую сістэму ў цёплы ручнік ў крэсле кіназалы. Усё, што вам трэба, – сеанс зараду жартаў і пазітыву з мультфільма "**Ледніковы перыяд: Сутыкненне непазбежнае**".

Прыгоды шалёнай вавёркі і яе жолуда працягваюцца, але ўжо ў касмічнай плоскасці. Вы зноў сустрэнецеся з персанажамі папярэдніх частак серыі, якія сутыкаюцца з новай праблемай.

А для рамантычнага вечара ці сустрэчы з сяброўкамі звярніце ўвагу на драму "**Да сустрэчы з табой**". Зорка папулярнага серыяла "Гульня тронаў" Эмілія Кларк у гэтай карціне прымярае абсалютна новую для сябе ролю. Тут гераіня жыве ў сучасным рэальным свеце і мае сур'ёзныя складанасці з працаўладкаваннем.

Ніхто не хоча браць яе на працу, але яна ўсё ж атрымлівае работу па доглядзе за чалавекам з інваліднасцю. Ім аказваецца малады і абаяльны малады чалавек. Паміж мужчынам і жанчынай завязваюцца рамантычныя адносіны, за якімі назіраць адначасова і кранальна, і забаўна дзякуючы прыемнаму гумару.

Яшчэ адна тэма гісторыі тычыцца права выбару. Ці можам мы штосьці забараніць тым, каго любім, для іх жа дабрабыту? Ці мы павінны дазволіць ім самім выбіраць, нават калі ад гэтага выбару разрывае ад болю? Героі абмяркоўваюць, што не ў нашых сілах змяніць людзей, а ўсё, што мы можам – кахаць іх.

У непагадзь добра правесці час у кампаніі, можна, уключыўшы ў праграму вечара кінафільм "**Стартрэк: Бясконцасць**".

Карціна "**Тарзан. Легенда**" – добры выбар, калі вы хочаце адчуць дух смелых прыгодаў, веліч прыроды і моц чалавечага духу.

**КІНО МАЛАДЗЕЧНА**

Кінатэатр "Радзіма" таксама прапануе ўзгаданыя навінкі, што і "Мір".

У нядзелю ў Маладзечне запускаюць пракат жахаў "**І гасне святло**". Галоўная гераіня Рэбека і яе брат перажываюць нешта жудаснае, што прывязанае да іх мамы. Рэбека назіраецца да таго, каб разгадаць таямніцу. І цалкам зразумела, што іх жыццё ў небяспецы, калі выключыцца святло.

Паранармальныя з'явы, выратаваць ад якіх могуць толькі яны – "**Паляўнічыя за прывідамі**". Для ўсіх аматараў містыкі і адважных барацьбітоў са злом.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**




**Камент-эксперт**

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

### У Маладзечне ў двары кіроўца збіў 8-гадовага хлопчыка

Правільная рэкамендацыя ДАІ! Пешаходы найчасцей самі скачуць пад колы. Трэба ўважлівей ставіцца да сябе і не падстаўляць кіроўцаў да ДТЗ! ***Дзмітры.***

У нас шмат дзяцей у двары, а на машынах ездзяць, як на дарозе. Мяне з сынам ледзь таксіст не збіў у двары, ехаў, як вар'ят. Я яму кажу: "Глядзі ж!", а ён мяне паслаў... ***Анастасія.***

### Жаніхі, не бойцеся падыходзіць да нявесты падчас першага танца. Парады, якія зробяць рэгістрацыю ў ЗАГСе нястрашнай

Вельмі хваляваліся перад рэгістрацыяй, як усё пройдзе. На дзіва, усё прайшло настолькі хутка, што не паспелі і пахвалявацца, і спужацца. ***Машуля.***

### Фудшэрынг ужо ў Маладзечне: як бясплатна аддаць непатрэбную ежу таму, хто яе з'есць

Не разумею, як ежа можа быць непатрэбнай. Купіў, колькі трэба, прыгатаваў. Не расходаваў, замарозь, каб прыгатаваць потым. ***Без подпісу.***

Ёсць такая ежа, якую не замарозіш. Ды часам і месца не бывае ў лядоўні. Розныя прычыны могуць быць... ***Hali.***

### Дэнамінацыя падштурхнула віляйчаніна сабраць калекцыю грошай

Малайчына, добрае захапленне. Адзінае, што стан ніжэй XF не мае кошту, за выключэннем асабліва рэдкіх бон. ***Сяргей.***

### Экспрэс-апытанне: ці будзеце вы адкладаць капейкі ў скарбонку, каб сабраць грошы на якую-небудзь рэч?

О-о-ой, не смяшыце мяне!) Тут хоць бы на жыццё хапала... ***Таня.***

## ГАРАСКОП 22-28 ЛІПЕНЯ


**Авен.** Не будзьце такія гарачыя ў справах. І не рабіце паспешных высноў, а пасля і дзеянняў, каб не разбурыць сямейную ідылію. Праблемы, звязаныя з няўменнем і нежаданнем разумець іншых людзей, могуць адбіцца на адносінах не толькі з блізкімі людзьмі, але і ўвогуле з усімі, з кім вы будзеце сутыкацца.


**Цялец.** Не будзьце легкадумныя, вы ж не такія, унікайце ў сутнасць рэчаў і разбярыцеся, чаму адно ідзе за другім.


**Блізняты.** Паспрабуйце радавацца таму, што ў вас ёсць, і не звяртаць увагі на тое, чаго няма. Гэта ўсё паставіць на свае месцы.


**Рак.** Калі вы вырашылі штосьці змяніць у сваім жыцці, асабліва, калі гэта звязанае з інтэлектуальнай сферай, напрыклад, пачаць вывучаць штосьці новае, асвойваць новыя сферы дзейнасці, то вам гарыць зялёнае святло.


**Леў.** Вы празмерна патрабавальныя да сябе і да іншых. Выбар паміж загадам і просьбай будзе важным для вас цяпер.


**Дзева.** Выберыце сабе адну мэту і рухайцеся да яе.


**Шалі.** Не распыляйцеся. І памятайце: вы можаце дасягнуць усяго, калі будзеце да гэтага імкнуцца.


**Скарпіён.** Вы не можаце дакладна вырашыць, якую дарогу выбраць. Вам трэба пераадолець унутраныя сумненні, выбраць свой шлях і пачаць дзейнічаць. Поспех гарантаваны.


**Стралец.** Лепшы спосаб для вас цяпер – нічога не рабіць. Вам трэба дачакацца спрыяльнага моманту для дзеянняў. Калі – вы гэта адчуеце самі.


**Казярог.** Адпачывайце і радуйцеся таму, што маеце. А гэта не так і мала. Даверцеся свайму лёсу і не спрабуйце яму супраціўляцца.


**Вадалей.** Памятайце, у любога дзеяння ёсць як мінімум два бакі. Эмоцыі могуць прыносіць як радасць, так і засмучэнні. Трымайцеся светлага боку вашых пачуццяў, не дазваляйце сабе расстройвацца ці перажываць з-за чаго, інакш негатыўныя эмоцыі могуць захліснуць вас.


**Рыбы.** Вам вельмі хочацца разбагацець, хаця натуры вы больш эмацыйныя, чым меркантыльныя. Тым не менш шанс у вас ёсць. У вашым жыцці наступае момант, калі лёс сам вядзе вас па шляху, які ведомы толькі яму, а вам трэба ісці смела і не аглядвацца па баках.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 23 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +16 | | +15 / +20 | | +18 / +22 | | +18 / +22 | |
| | 739 | ↖ 1 | 741 | ↓ 3 | 743 | ↓ 4 | 743 | ↓ 3 |
| Вільня | +16 / +18 | | +17 / +22 | | +17 / +22 | | +16 / +22 | |
| | 748 | ↘ 2 | 750 | ↓ 3 | 752 | ↓ 3 | 752 | ↘ 2 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.11
Захад 21.27
Даўжыня дня 16.16

Усход 22.55
Захад 9.24
Квадра 3




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +7,5 °С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +31,7 °С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,1 мм у 2013 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Рамонт у доме №12 па вуліцы Маўчанскага зрабілі год таму. Як атрымалася, што дамафонныя дзверы не ўсталявалі, а ўнітазы паставілі так, што дзверы ў прыбіральні не зачыняюцца. Гутарым з жыхарамі, разбіраемся ў праблеме ў наступным нумары "РГ".**

Окна
Рамы
Двери
ПО НИЗКИМ ЦЕНАМ!!!
ПВХ
Рассрочка!!
контактные телефоны
Велком +375-29-664-66-07
Мтс +375-33-664-68-07
ООО «ПрогрессСтройГрупп»
УНП 191441595

## Свята возера пройдзе ў Мядзеле

МЯДЗЕЛ

У райцэнтры 30 ліпеня на гарадскім пляжы пройдзе традыцыйнае свята возера.

Запрацуюць этнаграфічная і гульнявыя пляцоўкі, пройдуць майстар-класы, калар-фэст, канцэрты аматарскіх калектываў і **Сашы Нэма**. Свае вырабы прадставяць народныя майстры.

Наведнікаў чакае водная феерыя і вогненнае шоў. Як заўжды, вызначаць найлепшага рыбака.

Пачатак – а 16 гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



**У сераду на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства музыкі і гандляры з самаго Эквадора забаўлялі маладзечанцаў. Фота Наталлі ТУР. Больш фота і відэа на сайце rh.by.**

## У Вілейцы выбіралі лепшага кіроўцу сярод выратавальнікаў

ВІЛЕЙКА

**На базе Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях 14 ліпеня прайшоў фінальны этап абласнога конкурсу "Лепшы вадзіцель падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях Мінскай вобласці".**




Фота забяспечанае Таццянай САБАЛЕЎСКАЙ.

Падчас спаборніцтваў.

Праграма конкурсу ўключала тэставанне па правілах дарожнага руху, бяспекі руху, першай медыцынскай дапамогі, а таксама практыкаванні па праверцы навыкаў кіравання пажарным аўтамабілем. Кіроўцу трэба было выканаць усе заданні ў найкарацейшы час і пастарацца не здзейсніць пры гэтым памылак. Акрамя хуткасці, прадстаўнікі райаддзелаў прадэманстравалі навыкі ў пераадоленні перашкод, манеўраванні ў складаных умовах, іншыя элементы.

Пераможцам конкурсу стаў кіроўца-санітар медыцынскай службы ПАСА ўпраўлення **Іван Неўяровіч**.

**Таццяна САБАЛЕЎСКАЯ, інспектар групы прапаганды і навучання Вілейскага РАНС.**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы атрымалі сваё ўласнае жыллё?



**Наталля Мароз, настаўніца:**
– Уласніцай сваёй кватэры я стала толькі два гады таму. Доўга стаяла на чарзе і нарэшце атрымала запаветную 2-пакаёўку ў 11 мікрараёне. Цяпер кожны дзень атрымоўваю задавальненне ад таго, што я – гаспадыня сваёй уласнай кватэры.



**Ігар Свірскі, аўтаслесар:**
– У мяне ўласнай кватэры няма. Калі ажаніўся, пераехаў жыць да жонкі. Так і жывём да сённяшняга. І пра нейкае ўласнае жыллё нават не думаю.



**Мікалай Астроўскі, пенсіянер:**
– Мы пераехалі з Расіі ў Маладзечна, калі я яшчэ быў дзіцем. Так і пражыў тут на найманых кватэрах усё жыццё. Няма ў мяне ўласнай кватэры.



**Алег Сушко, аператар кацельні:**
– Няма ў мяне пакуль уласнага жылля. Жыву ў Вілейцы ў інтэрнаце. Стаім на чарзе, цяпер мы 270 прыкладна ў гэтай чарзе. Калі ўсё будзе добра, мяркую, гадоў праз пяць змагу адказаць на пытанне, як мне жывецца ва ўласнай кватэры.



**Іван Бараноўскі, вартаўнік:**
– Канешне, памятаю, я тады працаваў будаўніком. А будаўнікам тады вельмі хутка кватэры давалі. Праз некалькі год і атрымалі двухпакаёвую кватэру, у якой жывём да сёння.



**Ірына Тунік, у дэкрэтным адпачынку:**
– Маё ўласнае жыллё – гэта блок у інтэрнаце, у чаргу на які мы стаялі гадоў дзесяць. І працягваем стаяць у чарзе цяпер, каб атрымаць кватэру.



**Ніна Сліж, пенсіянерка:**
– Калі толькі выйшла замуж, з мужам наймалі кватэру ў гаспадара, у якога было пяць чалавек у сваёй сям'і і двое кватарантаў. Потым ад дзіцячага садка, у якім я працавала, нам далі пральню, у якой мы жылі два гады. Затым пераехалі ў барак на Чайкоўскага, дзе не было ніякіх выгодаў. Там пражылі 16 гадоў. А калі баракі пайшлі пад знос, нам далі трохпакаёвую кватэру, дзе я жыву цяпер.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№30 (1108) 22.07.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 707. Падпісана ў друк у 9.00 21.07.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.